# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

30 кастрычніка 2020 года №44 (1331)

18+





старонка 8

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

# Мастак Базіната: У гэтым годзе стала вельмі шмат страхаў

**Маладзечанцы маўкліва пратэстуюць**

старонка 20

**Пра смерць роднага чалавека даведалася не ад міліцыі, а па сарафанным радыё. Жыхарка Маладзечаншчыны расказала пра тое, як загінула яе сястра**

старонка 19

**Чаму варта ўважліва чытаць дагавор, калі афармляеце банкаўскую картку**

старонкі 3



ISSN 1991–7155
9 771991 715006 20044

Адсканауйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# Больш за 3000 саджанцаў пасадзілі ў гонар 75-годдзя ААН

МАЛАДЗЕЧНА

**Экалагічную акцыю зладзілі 24 кастрычніка.**

Супрацоўнікі прадстаўніцтва ААН у Беларусі і Маладзечанскага лясгаса сумесна пасадзілі больш за 3000 саджанцаў сасны, елкі і бярозы на тэрыторыі Маладзечанскага лясніцтва. Такім чынам адзначылі 75-годдзе Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Удзельнікі лічаць, што акцыя з'яўляецца калектыўным унёскам у захаванне біяразнастайнасці і барацьбу са змяненнем клімату.**

Падчас мерапрыемства Пастаянны каардынатар ААН у Беларусі **Іаана Казана-Вішнявецкі** адзначыла:

– Пасадка дрэў з'яўляецца сімвалам, але таксама – хаця і вельмі маленькім – усё ж канкрэтным жэстам, які дэманструе прыхільнасць і волю да барацьбы са змяненнем клімату. Экасістэмы Зямлі становяцца ўсё больш і больш кволымі. Біяразнастайнасць скарачаецца беспрэцэдэнтнымі тэмпамі з ростам уплыву на людзей і планету. Прагрэс у дасягненні глабальных мэт у галіне біяразнастайнасці, у тым ліку мэт устойлівага развіцця, неабходна паскорыць.

**Паводле інфармацыі прадстаўніцтва ААН у Беларусі.**


Фота Сяргея ГАПОНА

Падчас акцыі ў гонар 75-годдзя ААН.

## У Ашмянскім і Астравецкім раёнах будуць прымаць пластыкавыя закруткі

**Спецыяльны грузавік для збору пластыкавых закрутак адправіўся ў экатур па Беларусі.**

Грузавік праедзе па гарадах, дзе валанцёры падрыхтавалі закруткі, сабраныя жыхарамі. Грузавік забярэ закруткі ад пластыкавых бутэлек з-пад напояў, бытавой хіміі, парфумерыі.

Пластык з закрутак цэніцца, яго адпраляць на перапрацоўку, грошы, атрыманыя за яго – на рэабілітацыю **Маі і Цімафея Гурскіх**, у якіх захворванне ЦНС.

У панядзелак, 2 лістапада, грузавік будзе забіраць закруткі з наступных месцаў:

– Ашмянскі раён, Будзёнаўка, завулак Гагарына, 7, ад 12:45 да 13:30.

– Астравец, вуліца Янкі Купалы, 42, ад 14:15 да 15:15.

**Дабрачынны сацыяльна-экалагічны праект «Новае жыццё ў абмен на закруткі».**

## У маладзечанскай гімназіі зладзілі прыборку, некаторыя бацькі абураныя

**27 кастрычніка ў рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнуліся бацькі, чые дзеці вучацца ў маладзечанскай гімназіі №10.**


Фота Насты УЛІНАЙ.

Навучэнцы пасля ўрокаў прыбіралі тэрыторыю маладзечанскай гімназіі №10.

У аўторак, 27 кастрычніка, у гімназіі правялі суботнік. Кажуць, што ўрокі скарацілі, а вучні пасля 14 гадзін пачалі прыбіраць тэрыторыю. Асноўная частка бацькоў адмовілася ў суботу адпускаць дзяцей на суботнік, таму яго зрабілі ў аўторак.

Дырэктар гімназіі **Таццяна Камкова** не пагадзілася адказваць на пытанні карэспандэнта.

Яна спаслалася на тое, што па тэлефоне каментарыі не дае, сустрэцца таксама адмовілася – няма часу.

Па яе словах, калі ў вучняў будуць нейкія пытанні, то яны могуць звярнуцца наўпрост да яе, а не праз журналістаў.

Карэспандэнты «РГ» паглядзелі, як праходзіў суботнік у маладзечанскай гімназіі. Па ўсёй тэрыторыі школьнікі рознага ўзросту зграбалі лісце: грэблі дзяўчаты, а хлопцы клалі на цырату. Усяго прыбіралі тэрыторыю не менш за 30 дзяцей.

**Аддзел інфармацыі.**




Уважліва чытайце дагавор, калі замаўляеце картку.

# Маладзечанец: Карткай не карыстаюся, а аплату за яе спаганяюць

**Днямі да нас у рэдакцыю прыйшоў маладзечанец Мікалай. Мужчына падзяліўся сваёй праблемай: ужо некалькі месяцаў ён не карыстаецца карткай «Беларусбанка», а на тэлефон штомесяц прыходзяць паведамленні аб яе аплаце.**

МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечанец: Не разумею, чаму павінны плаціць

– Калі яшчэ працаваў, замовіў у банку пластыкавую картку. Недзе месяцаў пяць атрымліваў на яе грошы. Потым з працы звольніўся. Картку паклаў дома. Заробак туды не ішоў. І раптам на мабільнік прыходзіць паведамленне: «Запазычанасць 1.39». Думаю, за што? Пайшоў у банк, у адзін з філіялаў. Там растлумачылі, што ў мяне картка платная. Раней абслугоўваўся ў іншых банках. Нідзе такога не было. Я сказаў, што плаціць не буду, бо на картцы няма грошай. На працу пакуль не ўладкаваўся, беспрацоўны ўжо восем месяцаў. Быў на біржы, там прапануюць працу за 375 рублёў. Картка дзейнічае яшчэ пару год. Мне налічылі, што плаціць за ўвесь час прыйдзецца больш за 17 рублёў. Я аддаў гэту картку ў банк. Ахоўнік дагнаў і хацеў аддаць яе мне назад. Але я не ўзяў. Потым прыйшло на тэлефон паведамленне, што мая картка знаходзіцца ў банку на Прытыцкага, – падзяліўся Мікалай.

Мужчына не разумее, чаму ён павінны плаціць за картку, калі не карыстаецца ёй.

## Банк: Падпісаўшы дагавор, кліент пагаджаецца з умовамі

За каментаром мы звярнуліся ў прэс-службу «Беларусбанка». Вось такі адказ атрымалі.

Згодна з артыкулам 22 Банкаўскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, банк узаемадзейнічае з кліентамі на аснове банкаўскага заканадаўства і заключаных дагавораў.

Банкаўская аплатная картка – гэта ўніверсальны плацежны інструмент. Сюды залічваюць заробкі, пенсіі, дапамогі. Яна ж выкарыстоўваецца для аплаты тавараў і паслуг.

Аплата за абслугоўванне картак спаганяецца ў адпаведнасці са Зборнікам узнагароджанняў за аперацыі, якія выконваюцца ААТ «АСБ Беларусбанк». Выкарыстанне карткі рэгулюецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, лакальнымі прававымі актамі банка, заключанымі паміж банкам і кліентам дагаворам, а таксама ўмовамі прадастаўлення, абслугоўвання і выкарыстання асабістай карткі банка.

Падпісаўшы дагавор, кліент пагаджаецца з умовамі. Умовы вызначаюць, што грошы за абслугоўванне карткі спаганяюцца банкам пры афармленні карткі, а таксама штомесяц або штогод ва ўстаноўленых банкам памерах. Калі грошай на картцы дастаткова, аплата з рахунка кліента спісваецца ў апошні працоўны дзень месяца.

Калі кліент жадае скасаваць дагавор па ўласнай ініцыятыве да заканчэння тэрміну дзеяння карткі, узнагароджанне за яе абслугоўванне, якое падлягае штомесячнай выплаце, кліент выплачвае аднаразова за ўвесь пакінуты перыяд дзеяння карткі.

Спрэчкі і рознагалоссі, якія могуць паўстаць па дагаворы або ў сувязі з ім, вырашаюцца шляхам перамоў паміж бакамі. Калі ж бакі не дасягнуць згоды, то ў судзе.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Сярэдні заробак зменшыўся на 12 рублёў

**У верасні налічаны сярэдні заробак склаў 1 264,5 рубля, паведамляе Белстат. Гэта на 11,9 рубля менш, чым у жніўні.**

Аднак трэба ўлічваць, што звесткі аб сярэднім заробку публікуюцца да вылічэння падаходнага падатку (13%) і абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны (1%).

Такім чынам, сярэдні заробак чыстымі складае каля **1088 рублёў**. У пераліку на долары па сярэднім курсе Нацбанка ў верасні (2,6125 рубля) гэта – 416,5 долара. У пераліку на 26 кастрычніка (2,5399), – 428,4 долара.

**Паводле «Нашай нівы».**

### ЛІЧБА НУМАРА

**5**

Столькі аўтамабіляў «Ролс-Ройс» было ў Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.10 | 29.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5466 | **2.5990** |
| Еўра | 3.0216 | **3.0521** |
| Злоты, 10 | 6.5748 | **6.6137** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3052 | **3.3365** |
| Грыўня, 100 | 9.0089 | **9.1503** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 21.10 | 28.10 |
| Еўра | 2.9800/3.0700 | **3.0000/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5200/2.5900 | **2.5500/2.6500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 21.10 | 28.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,85 | **20,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | **2,40** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Перац, 1 кг | 3,00 | **3,40** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Гранат, 1 кг | – | **5,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,10 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,15 | **2,15** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **3,20** |

## Кіроўцу, які ўцёк з месца здарэння, будуць судзіць

ВІЛЕЙКА

21 кастрычніка пракуратура накіравала ў суд справу па смяротным жнівенскім ДТЗ у Вілейцы, расказаў намеснік пракурора Вілейшчыны **Андрэй Жукоўскі**. Кіроўцу абвінавачваюць па двух артыкулах – 317 частка 2 – парушэнне правіл дарожнага руху, якое пацягнула смерць чалавека, і 159 частка 3 – пакіданне пацярпелага ў небяспецы.

Нагадаем, што 12 жніўня, ноччу, у Вілейцы на Вадап'янава, машына збіла 33-гадовага пешахода. Ён загінуў на месцы. Кіроўца ўцёк з месца здарэння, аднак назаўтра раніцай сам прыйшоў у РАУС.

Па словах Андрэя Жукоўскага, кіроўца растлумачыў: уцёк з месца здарэння, бо спалохаўся. Раніцай прачытаў навіны пра загінулага і сам прыйшоў у міліцыю.

Артыкул 159 прадугледжвае арышт або пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў са штрафам. Артыкул 317 – штраф, або пазбаўленне права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю, або папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў, або арышт ці абмежаванне волі на тэрмін да двух гадоў, або пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У вёсцы Сукневічы гарэў дом. Выратавалі гаспадыню

СМАРГОНЬ

Пажар у вёсцы Сукневічы Залескага сельсавета здарыўся 23 кастрычніка. Выратавальнікам паведамілі пра яго каля васьмі вечара.

Работнікі МНС, якія прыехалі на месца, выратавалі гаспадыню. Жанчыну адвезлі ў бальніцу з атручэннем чадам. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Угнаў аўто знаёмага і паехаў за дабаўкай спіртнога

ВІЛЕЙКА

Днямі суд агучыў прыгавор 26-гадоваму жыхару Вілейшчыны. Мужчыну абвінавачвалі па частцы 1 артыкула 214 Крымінальнага кодэкса – угон. Падзеі адбываліся сёлета, 19 чэрвеня, у прамежку ад 10:00 да 10:45 раніцы. Пра абставіны справы і прысуд расказала памочнік пракурора Вілейшчыны **Наталля Стрэж**.

Па словах памочніка пракурора, у той дзень жыхарка адной з вёсак Вілейшчыны святкавала народзіны. На свята прыйшоў абвінавачаны і на машыне прыехаў пацярпелы з жонкай. Усе разам выпівалі. Калі абедзве жанчыны і гаспадар машыны заснулі, абвінавачаны вырашыў з'ездзіць за дабаўкай спіртнога на машыне знаёмага.

Узяў з яго курткі ключы, завёў машыну і паехаў на ёй у краму ў суседнюю вёску. Па дарозе нехта заўважыў, што за рулём машыны, верагодна, едзе нецвярозы кіроўца, і выклікаў ДАІ. Работнікі прыехалі і склалі пратаколы. Акрамя таго, што мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення, ён яшчэ не меў правоў – пазбавілі.

У гэты час прачнуўся пацярпелы. Ён заўважыў, што няма аўтамабіля, і паведаміў пра гэта ў РАУС Вілейкі.

Падчас кіравання абвінавачаны чужое аўто не пашкодзіў. Пацярпелы асаблівых прэтэнзій да знаёмага не меў, на строгім пакаранні не настойваў.

– Абвінавачаны прызнаў віну, раскаяўся. Сказаў, што красці аўтамабіль не збіраўся. Хацеў толькі пакарыстацца ім для паездкі ў краму. Суд улічыў грамадскую небяспеку здарэння. Абвінавачанаму прызначылі пакаранне – тры месяцы арышту. Згодна з артыкулам 107 Крымінальнага кодэкса, па месцы арышту мужчына будзе лячыцца ад алкагалізму, – падсумавала Наталля Стрэж.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Браканьер налавіў больш за сорак кілаграмаў рыбы

ВІЛЕЙКА

Ноччу 16 кастрычніка на беразе Вілейскага вадасховішча жыхар Вілейкі спустошыў устаноўленыя напярэдадні сеткі, схаваў свае снасці ў прыбярэжных кустах і пачаў загружаць ванначкі з рыбай у машыну. У гэты момант яго затрымалі аператыўнікі Дзяржінспекцыі.

Ва ўлове вагой 41 кілаграм былі судак, лешч, шчупак, акунь і плотка. Прычыненая прыродзе шкода ацэньваецца ў 3,8 тысячы рублёў. У дачыненні да браканьера ўзбудзілі крымінальную справу, паведамляюць у Дзяржінспекцыі аховы расліннага і жывёльнага свету.

**Аддзел інфармацыі.**





Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

На месцы здарэння.

# На летняй кухні выбухнуў газ

### Пад рэшткамі будынка знайшлі труп 80-гадовага мужчыны

**Маладзечанскія следчыя высвятляюць абставіны выбуху бытавога газу. 26 кастрычніка раніцай у МНС паступіла паведамленне пра выбух бытавога газу ў вёсцы Загараскае Красненскага сельсавета. У ходзе ліквідацыі наступстваў ратавальнікі знайшлі цела 80-гадовага мужчыны, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна.**

МАЛАДЗЕЧНА

На месцы здарэння працуе следча-аператыўная група. Паводле папярэдняй інфармацыі, у летняй кухні адбылася ўцечка бытавога газу, якая прывяла да выбуху. Мужчына загінуў на месцы здарэння, пабудова разбураная цалкам.

Са слоў жонкі, мужчына раніцай пайшоў на летнюю кухню, каб прыгатаваць сабе каву.

Для ўстанаўлення дакладнай прычыны здарэння і смерці прызначаны шэраг экспертных даследаванняў. Маладзечанскія следчыя праводзяць праверку.

### Рэкамендацыі ў выпадку выяўлення паху газу

Калі гэта адбылося ўдзень, то:

– нельга ўключаць электрапрыборы ці выкарыстоўваць адкрытае полымя;

– трэба неадкладна закрыць кран на балоне і закрыць краны канфорак пліты ці кран газавай калонкі;

– для праветрывання памяшкання расчыніць вокны ці форткі, уваходныя дзверы;

– усім выйсці з памяшкання і выклікаць газавую службу па тэлефоне **104**.

Калі гэта адбылося ўвечары і ў вас уключаныя асвятленне, тэлевізар і іншыя электрапрыборы, то іх выключаць нельга, бо пры іх адключэнні адбудзецца іскра ў разетцы ці выключальніку, што можа выклікаць выбух газу.

Каб выключыць верагоднасць уцечкі газу, трэба:

– перад эксплуатацыяй газавых прыбораў або балона прайсці інструктаж па тэхніцы бяспекі ў спецыялістаў, атрымаць дакумент на права эксплуатацыі газавых прыбораў;

– не пускайце да газавых прыбораў дзяцей і асоб, якія не ведаюць правілы абыходжання з гэтымі прыборамі;

– запраўляйце газавыя балоны толькі ў спецыялізаваных пунктах;

– самастойна не падключайце і не адключайце газавыя пліты ў кватэрах;

– не выкарыстоўвайце газавыя пліты для абагрэву кватэры;

– выконвайце паслядоўнасць уключэння газавых прыбораў: спачатку запаліце запалку, а затым адкрыйце падачу газу;

– сыходзячы з кватэры, не забудзьцеся выключыць газавую пліту і перакрыць вентыль на балоне.

Памятайце, што выбух бытавога газу ў памяшканні можа стаць прычынай абвальвання будынка ці яго часткі, узнікнення пажару, траўмавання і гібелі людзей.

**Аддзел інфармацыі.**

## Невядомыя ў масках падманулі пенсіянерку

ВАЛОЖЫН

### Здарэнне адбылося ў вёсцы Старынкі Івянецкага сельсавета.

У двор 86-гадовай мясцовай жыхаркі ўвайшлі дзве жанчыны ў масках. Ёй яны прадставіліся нейкімі сацработнікамі і прапанавалі прайсці ў дом «па важнай і неадкладнай справе».

Ужо ў пакоі незнаёмыя паведамілі, што «ў сувязі з палітычнай сітуацыяй чакаецца замена грошай».

Госці сказалі, што яны не мяняюць грошы, проста ходзяць і папярэджваюць насельніцтва асабіста. Адна з жанчын прапанавала гаспадыні прайсці ў іншы пакой распісацца, што яны яе праінфармавалі і ўсё патлумачылі. Праз пару хвілін госці развіталіся і пайшлі. А пазней бабуля выявіла, што зніклі 900 рублёў і 50 долараў.

Нейкіх прымет махляроў пацярпелая не запомніла. Тыя хаваліся пад маскамі. Жыхары вёскі Старынкі падказалі, што «сацработнікі» перасоўваліся на старой «Аўдзі» чырвонага колеру. Цяпер пошукам зламыснікаў займаюцца супрацоўнікі крымінальнага вышуку, а грамадзянам, асабліва састарэлым адзінокім, нагадваюць: ні ў якім разе не пускаць у сваё жыллё незнаёмых, ні пры якіх абставінах не ўстанаўліваць з імі кантакт.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Артысты ансамбля «Спадчына»: Мы асірацелі другі раз

## Днямі развіталіся з Яўгенам Гарчаніным

МАЛАДЗЕЧНА

**27 кастрычніка ў Маладзечне развіталіся з музыкантам, хормайстрам, мастацкім кіраўніком заслужанага ансамбля песні і танца «Спадчына» Яўгенам Гарчаніным. Маладзечанец памёр 25 кастрычніка. Па словах родных, смерць была вельмі нечаканая.**

На грамадзянскай паніхідзе прысутнічалі родныя і сябры Яўгена Цімафеевіча, артысты «Спадчыны», калегі, прадстаўнікі Маладзечанскіх электрасетак, дзе Яўген Гарчанін кіраваў хорам «Світанак», прыхільнікі творчасці.

– Смерць Яўгена Гарчаніна – вялікая страта для культуры Маладзечна і для ўсёй Беларусі. Так склалася, што лёс музыканта звязаны з Маладзечнам. У 1976 годзе ён паступіў у Маладзечанскае музвучылішча на спецыяльнасць «Харавое дырыжыраванне», а скончыўшы ўстанову, на прафесійнай аснове стаў працаваць у «Спадчыне». 38 год працаваў тут хормайстрам, а калі ўлічыць, што ён быў у ансамблі і ў час вучобы, атрымаецца больш за сорак год. Ён з'яўляўся сведкам усіх песень, якія ствараліся ў «Спадчыне» **Іосіфам Сушко**, бо над кожным творам працаваў як хормайстар.

У тандэме з Іосіфам Сушко яны стварылі вельмі прыгожы калектыў. Калектыў з'яўляўся візітоўкай Маладзечна і Беларусі. Яўген Цімафеевіч быў цудоўным чалавекам, адказным, прыгожым, таленавітым.

Дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага **Рыгор Сарока** падзяліўся, што Яўгена Гарчаніна ведае з юнацтва. Адзначыў, што пасля смерці Іосіфа Сушко, заснавальніка і першага кіраўніка «Спадчыны», Яўген Гарчанін меў вельмі няпростую і адказную задачу – пасля такой яркай асобы, як Іосіф Сушко, узначаліць калектыў і не загубіць яго. З гэтай задачай ён паспяхова справіўся – калектыў жыве.

– Нас з Яўгенам звязвалі не толькі адносіны дырэктара навучальнай музычнай установы і аднаго з лепшых выпускнікоў, нас звязвала вялікае сяброўства. Я часам гасцяваў у роднай вёсцы Яўгена – Залужжы, што каля Старых Дарог. Дзякуючы гэтым стасункам, Яўген Гарчанін і многія таленавітыя музыканты з гэтай вёсачкі апынуліся ў Маладзечне і паступілі ў музвучылішча. Для мяне з Яўгенам звязаны нашы размовы пра музыку, пра культуру, праекты і, канешне, наша юнацтва, – адзначыў Рыгор Сарока.



Падчас развітання.

Былы старшыня культурна-асветніцкага таварыства украінцаў «Краяны» **Леанід Лысакабылка** прыгадаў сваё супрацоўніцтва з Яўгенам Гарчаніным. На працягу некалькіх гадоў ён разам з «Краянамі» не прапускаў ніводнага фестывалю нацыянальных культур у Гродне. Дуэт Алы Шэкі і Марыі Рудык, створаны Гарчаніным, заўсёды ярка выступаў з украінскімі песнямі.

Артысты калектыву «Спадчына» адзначылі, што за адносна невялікі тэрмін – чатыры гады – яны асірацелі другі раз. У 2016 годзе памёр Іосіф Сушко, а цяпер «Спадчына» засталася без Яўгена Гарчаніна.

**Даведка «РГ»**

Калектыў «Спадчына» створаны ў 1963 годзе пры гарадскім Доме культуры Маладзечна. Заснавальнік і кіраўнік калектыву да 2016 года – заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, уладальнік спецыяльнай прэміі «За духоўнае адраджэнне», ганаровы грамадзянін Маладзечна Іосіф Сушко. Званне «народны» прысвоенае калектыву ў 1963 годзе, званне «Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь» – у 2004. Кіраўнік калектыву ад 2016 года – былы хормайстар ансамбля Яўген Гарчанін. У рэпертуары калектыву – каля чатырохсот твораў. Гэта музычныя творы беларускіх кампазітараў, народныя песні і танцы, жарты, прыпеўкі. Мастацкім кіраўніком ансамбля Іосіфам Сушко створаны шэраг вакальна-харэаграфічных кампазіцый. «Спадчына» неаднаразова прадстаўляла беларускае аматарскае мастацтва за межамі краіны. Ансамбль – лаўрэат I, II і III Усесаюзных фестываляў народнай творчасці, нацыянальнага фестывалю «Беларусь – мая песня», а таксама міжнародных фестываляў народнай творчасці ў Беларусі, Балгарыі, Венгрыі, Латвіі, Літве, Эстоніі, Польшчы, Італіі, Украіне, Расіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Адкрылі фотавыставу, прысвечаную Валожыншчыне

ВАЛОЖЫН

**У Мінску адкрылася фотавыстава Міколы Лінніка «Валожыншчына». Яе арганізавалі ў межах праекта «Рэгіёны» і прымеркаваная да 620-годдзя Валожына.**

У экспазіцыі прадстаўлена больш за 30 фотаздымкаў, прысвечаных Валожынскаму краю. На здымках фатограф і журналіст Мікола Ліннік паказаў сваю малую радзіму. На адкрыццё прыехалі яго землякі.

Дырэктар Валожынскага краязнаўчага музея **Наталля Лоўчая** заўважыла, што дзякуючы фотаздымкам Міколы Лінніка кожны можа ўбачыць прыгажосць Валожына. Яна расказала прысутным пра гісторыю і сучаснасць горада.

Старэйшы навуковы супрацоўнік Івянецкага музея традыцыйнай культуры **Ірына Сухавецкая** расказала пра цікавыя факты з жыцця мястэчка Івянец, з якім звязаная біяграфія палітычнага дзеяча Феліксі Дзяржынскага. Там жылі Казімір і Люцыя Дзяржынскія (родны брат Феліксa з жонкай), якіх у вайну расстралялі за сувязь з партызанамі.

На фотавыставу сабраліся вядомыя беларускія паэты і празаікі, карані якіх з Валожыншчыны. Чытаў свае вершы паэт **Віктар Шніп**. Дарэчы, ён стварыў каля чатырохсот балад, прысвечаных гістарычным асобам Беларусі. Сумесна з Міколам Ліннікам паэт правёў чатыры фотавыставы «Балады Віктара Шніпа ў фота Міколы Лінніка».

– Гэта фотавыстава – праца душы Міколы, – зазначыў Віктар Шніп. – Ён бачыць у звычайным нешта незвычайнае, узнёслае, радаснае, дзеліцца сваім поглядам на прыгажосць роднай зямлі. Зафіксаванае на фотаздымках застанецца з намі. Гэта наша памяць, якую мы перададзім нашым нашчадкам.

Свае вершы падчас імпрэзы чыталі ўраджэнкі Валожыншчыны **Ядвіга Рай**, **Марыя Шагун** і **Людміла Садоўская**.

– Трэба быць захопленым чалавекам, – адзначыў напрыканцы імпрэзы Мікола Ліннік. – Пакуль ты нечым захапляешся, здзяйсняешся, да той пары жывеш. Творчасць дапамагае жыць.



На адкрыцці фотавыставы выступае паэт Віктар Шніп.

Наведаць фотавыставу можна да 20 лістапада па адрасе: Мінск, вуліца Савецкая, 11.

Мікола Ліннік нарадзіўся ў вёсцы Порычы на Валожыншчыне. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Амаль сорак гадоў адпрацаваў інжынерам у РУП «Белтэлекам». Цяпер на заслужаным адпачынку. Фатаграфіяй і журналістыкай займаецца больш за 55 гадоў. За ўвесь гэты час адбылося 48 персанальных фотавыстаў.

**Людміла ШАСТАКОВІЧ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Зімовая гума на жалезных дысках б/у, 4 шт. R-16 205155. Нядорага. Т. (8-029) 9529981.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

• Гараж у ГК-1 г. Маладзечна. Т. (8-033) 6035716.*

### ЗДАМ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2103019.

### НАЙМУ

• 2-х, 3-х, 4-пакаёвую кватэру ў Вілейцы або дом з выгодамі на доўгі тэрмін, дорага. Т. (+375-44) 5132783.*

• Кватэру ў Маладзечне. Т. (8033) 6451110.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Музыка, відэаздымка, фотаздымка, тамада. Т. (8-029) 8578378.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне, культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

• Піяніна. Нядорага. Т. (8-029) 6086204*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Віталій. Т. (8-029) 6769359.*

• Карова высокаўдойная, 10 гадоў. Т. (8-029) 7510424, (8-01771) 78961.

• Карова, 7 год. Т. (8-029) 7518549, (8-0176) 504159.*

• Козы зааненскія, 2 шт., высокаўдойныя, цана дамоўная, дапамагу з дастаўкай. Вёска Ілья, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6934239 (МТС), (8-029) 9980002 (А1).*

• Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.*

• Распродаж парасят кармалаў ад 40 рублёў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

• Парасяты в'етнамскія 2-месячныя, ядуць усё, прышчэпленыя па ўзросце, кастрыраваныя. Хлопчыкі і дзяўчынкі. Магчымая дастаўка ў Смаргонскі, Ашмянскі, Вілейскі, Маладзечанскі раёны. Т. (8-044) 4812864.

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Фотаапараты «Зеніт» і розныя аб'ектывы. Т. (8-029) 2988005.*

### ІНШАЕ

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*



## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. Т. (8-044) 4564380.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# У арэхах на адным з прадпрыемстваў знайшлі небяспечныя бактэрыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Мікраарганізмы ў харчовых прадуктах прысутнічаюць заўсёды. Аднак некаторыя з іх патагенныя для чалавека – гэта значыць, небяспечныя і здольныя выклікаць захворванне.**

Распаўсюджаны прадстаўнік харчовых патагенных бактэрый – кішачная палачка або бактэрыі групы кішачных палачак (БГКП).

Кішачная палачка можа быць у шматлікіх прадуктах, уключаючы арэхі. Інспекцыяй Дзяржстандарту, а менавіта аддзелам Дзяржстандарту Маладзечна падчас кантрольна-наглядннага мерапрыемства на адным з вытворчых прадпрыемстваў узялі арэхі для даследаванняў. Вынікі ў акрэдытаванай выпрабавальнай лабараторыі паказалі, што бактэрыі групы кішачнай палачкі ў 0,01 грама прадукту ёсць. А гэта недапушчальна.

Прадукты з вялікім утрыманнем гэтых бактэрый могуць выклікаць харчовае атручэнне і, як следства, боль у жываце, млоснасць, ваніты, дыярэю, павышэнне тэмпературы цела.

У асноўным наяўнасць такіх бактэрый сведчыць пра агульны санітарны стан вытворчасці, у тым ліку і пра чысціню абсталявання.

З іншага боку, выяўленне кішачнай палачкі ў прадукце можа сведчыць аб няправільных умовах захоўвання.

Па выніках праверкі аддзел Дзяржнагляду Маладзечна вынес прадпісанне аб забароне рэалізацыі небяспечнай прадукцыі, а таксама загад аб скасаванні парушэнняў.

**Людміла РАБЦАВА, інспектар аддзела Дзяржаўнага нагляду Маладзечна інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску.**



Фота zira.uz

Арэхі на адным з прадпрыемстваў Маладзечна аказаліся небяспечнымі для здароўя.

# Ёсць выплата ўнёскаў у ФСЗН – значыць, ёсць пенсія

## Фонд сацыяльнай абароны – пра абавязкі плацельшчыкаў па выплаце ўнёскаў

Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь нагадвае, што ў адпаведнасці з пунктам 26 Палажэння аб выплаце абавязковых страхавых унёскаў, унёскаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне і іншых плацяжоў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.01.2009 №40, плацельшчыкі абавязковых страхавых унёскаў абавязаны налічваць і пералічваць іх у поўным аб'ёме і ва ўстаноўленыя гэтым палажэннем тэрміны.

Своечасовая і поўная выплата страхавых унёскаў гарантуе работнікам прадпрыемстваў своечасовае прызначэнне і выплату пенсій і дапамог, што выплачваюцца са сродкаў фонду. У перыяд, калі працадаўцам унёскі не выплачваюцца або выплачваюцца ў няпоўным аб'ёме, у работнікаў не фарміруецца права на сацыяльныя выплаты, уключаючы пенсіі. Гэта адмоўна адаб'ецца на памеры пенсіі або дапамогі.

У такой сітуацыі цярпіць работнік прадпрыемства, якому прыйшла пара афармляць працоўную пенсію. Працоўны стаж і індывідуальны каэфіцыент заробку пры прызначэнні пенсіі залічваецца і разлічваецца толькі пры выплаце абавязковых страхавых унёскаў у бюджэт фонду. Ёсць выплата ўнёскаў – ёсць працоўны стаж і пенсія, няма выплаты – няма працоўнай пенсіі.

У выпадку парушэння тэрмінаў выплаты абавязковых страхавых унёскаў прадугледжаная адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам.

Калі ў вас узнікаюць пытанні, звяртайцеся ў Маладзечанскі раённы аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на адрас: Маладзечна, вуліца Машэрава, 19 і па тэлефонах: (8-0176) 74-63-17; 74-62-14 ад 08:00 да 17:00, субота, нядзеля – выхадныя.

**Марына СЕВЕРЫНА, начальнік Маладзечанскага раённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.**

# Мастак Базіната: У гэтым годзе стала вельмі шмат страхаў

**Пра тое, як мастакі рэагуюць на падзеі вакол сябе, ці з'яўляюцца яны актывістамі і ў чым бяда недастатковай актыўнасці людзей, журналіст «Рэгіянальнай газеты» паразмаўляла з адным з самых крэатыўных сучасных мастакоў Беларусі Базіната. Менавіта ён кіраваў мастацкім афармленнем галерэі на вуліцы стрыт-фуда, а ў 2017 годзе зладзіў выставу карцін на сметніцы на Парашках.**



Мастак з Маладзечна Базіната.

Фота Ігара ПАЛЬЫНСКАГА.

**– Ці можна назваць мастака актывістам?**

– Розныя мастакі выбіраюць розныя фарматы. Мне падабаецца, што робяць маладыя мастакі – перформансы, акцыі. Напрыклад, была класная акцыя ў метро Ульяны Няўзаравай «Гэты плакат можа стаць прычынай майго затрымання». Такія формы вельмі простыя, але ў той жа час спрацоўваюць выдатна.

**– Як табе фармат акцый, падобны да тых, што робіць Паўленскі? Напрыклад, прыбіць цвіком машонку да крамлёўскай брусчаткі.**

– Гэта яго мова выказвання, пытанне адносін да свайго цела, цела ў прасторы. Да такой акцыі чалавека прывялі пэўныя працэсы, яго жыццё. Такія выказванні працуюць.

Для некаторых мастакоў такая форма незразумелая. Ну, праўда: ты ж сядзіш два тыдні ў майстэрні, фатаграфуеш, выкладваеш у сацыяльную сетку і табе паставяць тры лайкі. А тут намаляваў плакат – і ты зорка, сто тысяч праглядаў.

**– Ці ёсць у цябе адчуванне, што перамены ў Маладзечне пачаліся з вуліцай стрыт-фуда? Што яна стала месцам, якое зараджае жыхароў прагай крэатыву і актывізму?**

– Думаю, стрыт-фуд стаў адным з пунктаў, які да гэтага падштурхнуў. Людзі мяняюцца ўвесь час. Стрыт-фуд крыху змяніў логіку і прастору, разуменне, што з гэтай прасторай можна рабіць. Ён паказаў, што месца можа задаваць кірунак руху і дзейнасці. У многіх ёсць патрэба прыходзіць у пэўнае месца, напаўняцца там падзеямі, сустрэчамі і ўзаемадзеяннямі.

Гэтай восенню і летам стрыт-фуд быў асабліва актуальны для жыхароў, якім давялося перажыць кавід. У горадзе не так і шмат месцаў, куды можна спакойна прыйсці, і там заўсёды штосьці будзе, як мінімум, ежа.

**– Гэта месца прыдумалі і зрабілі такім жыхары. Ці ўплывае на маладзечанцаў прыклад таго, што актывісты могуць змяняць горад?**

– Любы горад, яго атмасферу, энергію, рух, падзеі і культуру вызначае жыхар і супольнасць. Вуліца сфарміравала вакол сябе супольнасць людзей розных прафесій і сферы зацікаўленасці, якія могуць на гэтай пляцоўцы ўвасабляць сваё бачанне грамадскай прасторы. Любы горад фарміруюць яго жыхары. Мне падаецца, у Маладзечне заўсёды было шмат актыўных людзей, якія ўплывалі на поле падзей.

Пераважна гэта людзі гуманістычнага светапогляду, якія хацелі б змяняць мадэль паводзін гараджан і прастору горада.

Маладзечна – горад з савецкай геаметрыяй і архітэктурай. Калі яго будавалі, то не думалі, што людзі будуць у ім жыць так, як цяпер – у час эпідэміі, масавых пратэстаў, сур'ёзных трансфармацый у грамадстве. Калі будавалі, то не думалі, што тут усё гэта будзе, што вуліцы запоўняць столькі машын, з'явіцца інтэрнэт. Канешне, на ўзроўні архітэктуры горад фарміруе людзей. Але людзі сваімі дробнымі гісторыямі, актывізмам, творчасцю пераўтвараюць горад.

Сустрэчы даюць магчымасць ствараць штосьці новае, дзяліцца меркаваннямі, весці дыялог – гэта тое, чаго нашаму грамадству ніколі не хапала. А месцаў для дыялогу ў горадзе не так і шмат. Мы прывыклі да маналогу – настаўнік гаворыць, дзеці слухаюць, да мадэлі, калі ёсць нейкі «дарослы», які ўсё ведае. І такая мадэль у нас трымаецца на розных узроўнях.

Чым большай колькасці людзей цікава, што адбываецца вакол іх, што робіцца ў іх двары, у іншым мікраёне. Чым больш зацікаўленасці, тым больш развіваецца прастора. Таму я за тое, каб існавала як мага больш публічных месцаў. Менавіта тут ты лепш знаёмішся з людзьмі. А чым лепш ведаеш чалавека, тым лепш разумееш, як можаш з ім узаемадзейнічаць, больш верагоднасці стварыць нешта сумеснае. Дзякуючы гэтаму чалавек можа рэальна рэалізаваць свой патэнцыял, таму што часта людзі не ведаюць, што вакол іх, з кім можна скаардынавацца.

Можа і канкрэтная падзея змяніць чалавека знутры, таму што давозіцца даць сабе адказ на пытанне: ці гатовы ты мірыцца з гэтым гвалтам, прыгнётам, пастаянным наглядам і ўказкай, адсутнасцю дыялогу. Або гатовы штосьці зрабіць, каб выйсці з замкнёнага кола.

**– Ты як мастак як ацэньваеш падзеі ў Беларусі ў гэтым годзе?**

– Гэтыя падзеі цікавыя, шматгранныя, аналізаваць іх складана. Я маю мастацкія метады, праз якія спрабую паглядзець на гэта збоку. Тое, што адбываецца ў гэтым годзе, выклікае ў мяне інтарэс назіральніка. Хутка рэфлексаваць на гэтыя падзеі складана, таму атрымліваецца, што ты ўвесь час у патоку, не заўсёды паспяваеш зразумець, што адбываецца.

Ад нас усіх спатрэбілася прыдумаць новыя механізмы ўзаемадзеяння з гэтым навакольным асяроддзем, якое змянілася. Тое, як рэагаваць на гэтыя выклікі, як сітуацыя праяўляе асобу. Мяне хвалюе, як у розных людзей у розны час трансфармуецца ўнутраны свет. Мы зблізімся, хочам пабачыць твары адзін аднаго, зразумець. У той жа час мы і аддаляемся – гэта парадокс, які хочацца зразумець.

За гэты год стала вельмі шмат страхаў, страх стаў больш бачным. Год вымагае перайсці на новы эмацыйна-пачуццёвы ўзровень.

**– Ці праўда, што для мастака чым горш, тым лепш? У тым сэнсе, што чым горшыя падзеі адбываюцца, тым больш сур'ёзны матэрыял для мастацкага ўвасаблення.**

– Калі гвалт або парушэнне маральных нормаў бачныя, то мне як мастаку працы з гэтым працаваць. Я візуальны мастак, і размаўляю з чалавекам зразумелай яму мовай. Цяпер у Беларусі шмат мастацтва – ілюстрацый, музыкі, карцін, акцый. Шмат усяго адбываецца кожны дзень. Такога руху я не бачыў ніколі. Такая колькасць мастацтва – рэфлексія на падзеі, дзякуючы чаму шмат цікавых работ. З аднаго боку, радасна, што ўсяго многа. З іншага, гэта пераходзіць у іншую плоскасць. І не ўсе мастакі разумеюць, да чаго гэта вядзе.

З вострымі тэмамі працаваць лягчэй і цікавей, таму што аддача ад іх імгненная. Гэта ўдзячнае поле. Спосабы перадачы паведамленняў вельмі змяніліся. Сацыяльныя сеткі дазваляюць атрымаць імгненную рэакцыю на тваё паведамленне.

Мая хуткасць рэагавання іншая. Я адразу ацэньваю мінулае, цяперашняе і будучае. Чапляю не тое, што адбываецца зараз, а агульначалавечыя рэчы. Я люблю ставіць пытанні, таму што адказы будуць ва ўсіх розныя.

**– Што ты думаеш пра плакаты беларускага пратэсту?**

– Плакаты людзі любяць, таму што слова – моцны інструмент для выказвання пазіцыі. Мяркую, любы пратэстны рух быў з лозунгамі і транспарантамі. Іншыя адразу разумеюць, што ты хочаш сказаць. Я прыхільнік карнавалаў, масавых свят, калі людзі збіраюцца, таму што хочуць гэтага.

**– Тое, што адбываецца ў Беларусі – не новая і не ўнікальная сітуацыя, падобнае адбывалася ў многіх кутках свету ў розны час. Ці з'яўляецца адной з прычын крызісу, такога, як цяпер у Беларусі, недастатковая актыўнасць людзей?**

– Пратэсты, барацьба з уладай – гэта адбываецца паўсюль. Дзякуючы доступу да інфармацыі мы гэта ведаем. Але людзі, якія цяпер жывуць у Беларусі, раней з такім не сутыкаліся, не былі да такога гатовыя.

Многае залежыць ад людзей, чаму яны знаходзяцца ў той ці іншай сітуацыі. Але ніхто не адмяняў эвалюцыйны працэс, дзякуючы якому людзі вучацца. І ў нас цяпер пачынаюць фарміравацца супольнасці вакол пэўных каштоўнасцей.

Усё, што адбываецца ў грамадстве, адбываецца на глебе грамадскай дамоўленасці. Мы, напрыклад, дамовіліся, што не будзем біць адзін аднаго, і не б'ём. Мы жывём у такой парадыгме, пакуль яе трымаюцца бакі. Калі яна перастае працаваць, то трэба дамаўляцца нанова, весці дыялог.

Усё паўплывае на ўсё. Мне важна зразумець тое поле, дзе будзе цікава выказацца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён)

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота gazeta.ru.

# «Платформа»

**«Платформа» – іспанскі навукова-фантастычны фільм з элементамі жахаў і трылера. Яго зняў рэжысёр Гальдэра Гастэлу-Уруціі. У фільме зняліся Іван Масаге, Антонія Сан Хуан, Сарыён Эгілеёр, Эміліа Буале Кока і Аляксандра Масангкай.**

Прэм’ера фільма адбылася ў верасні 2019 года на міжнародным кінафестывалі ў Таронта, на якім ён перамог у секцыі «Паўночнае вар’яцтва» па выніках галасавання гледачоў.

### Пра што «Платформа»?

Галоўны герой па імені Гарэн пагаджаецца на ўдзел у нейкім эксперыменце і неўзабаве прыходзіць у сябе ў амаль пустым пакоі ўзроўню 48. У гэтым пакоі ёсць вялікія адтуліны ў падлозе і столі. На кожным узроўні знаходзяцца двое чалавек, а колькі ўсяго ўзроўняў – невядома. Паверхі звязвае агульны калодзеж, па якім раз у дзень апускаецца платформа з ежай, і чым ніжэй знаходзяцца людзі, тым менш у іх шанцаў паесці. Кожны месяц адбываецца ракіроўка, і насельнікі верхніх узроўняў могуць апынуцца ў самым нізе, і наадварот. Кожнаму чалавеку дазваляецца ўзяць з сабой адзін прадмет.

### Цікавосткі

«Вертыкальны цэнтр самакіравання» – так называе гэты будынак адзін з герояў фільма. Гэта алегорыя для грамадства: тыя, хто знаходзіцца наверсе, атрымліваюць лепшае і могуць спажываць значна больш за кошт тых, хто знаходзіцца ніжэй.

Паверхі будынка пранумараваныя ад ніжэйшага да вышэйшага знізу ўверх. Тая ж сістэма нумарацыі ёсць у Трэцім коле пекла Дантэ. Напрыканцы фільма становіцца вядома, што ў гэтым будынку 333 камеры, а значыць там усяго жыве 666 чалавек. Такім чынам, гэта таксама спасылка на пекла.

### Водгукі

Фільм атрымаў пераважна станоўчыя водгукі ў прэсе. Агульнае меркаванне крытыкаў сфармуляванае так: «Часам сумбурная «Платформа» з’яўляецца вынаходлівым і захапляльным антыўтапічным трылерам».

### Фурор фільма на фестывалі ў Таронта

Найбуйнейшы сусветны інтэрнэт-кінатэатр Netflix купіў іспанскую «Платформу» яшчэ ў верасні мінулага года на кінафестывалі ў Таронта – задоўга да пачатку эпідэміі, якая зрабіла сёння фільм такім актуальным. Канадскі фестываль вядомы не толькі прэм’ерамі оскараўскіх фільмаў і паўторам усяго лепшага з Кан і Венецыі, але і сваёй секцыяй «Паўночнае вар’яцтва». Ужо 11 гадоў у гэтай праграме збіраюць сапраўды вар’яцкія фільмы самых розных жанраў: жахі, трылеры, экстрэмальныя баевікі, камедыі, арыгінальную фантастыку.

Пераможцу ў секцыі вызначае не прафесійнае журы, а глядач. У 2019 годзе «Платформа» апынулася сярод вельмі моцных канкурэнтаў, але перамагла.

Фільм можна паглядзець у інтэрнэт-кінатэатрах.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 НОЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 1.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25** Т/с **«ОДЕССА-МАМА».**
**9.15** Стрим-спектакль «Доктор Айболит» (Архив СБ ТВ).
**10.00** Мультфильмы «Монстры на каникулах».
**11.30** «Смотрим всей семьей»: «Перри Джексон и море чудовищ».
**13.10, 18.15** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.20** Т/с **«КРАСНЫЕ ГОРЫ».**
**17.20** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ».**
**23.10** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ. ИНТЕРНЕЙШНЛ».**
**1.05** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**

### ВТОРНИК, 3 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 18.50, 21.10, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.55** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**10.00** «Архив СБ ТВ».
**10.10** Мультфильмы «Лис и пес».
**11.20** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ».**
**13.20, 18.55** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.20** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**17.00** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КОЛОНИЯ «ДИГНИДАД».**
**23.05** Х/ф **«ГРАНЬ БУДУЩЕГО».**
**1.00** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**

### СРЕДА, 4 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 19.05, 21.10, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.55** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.15** Кулинарная программа «Готовь как шеф».
**9.40** Мультфильмы «Скуби Ду».
**11.15** Х/ф **«АГЕНТЫ А.Н.К.Л».**
**13.15, 19.10** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.15** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**17.30** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВЧЕРА».**
**23.15** Х/ф **«ВОЗМЕЗДИЕ».**
**1.10** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**

### ЧЕТВЕРГ, 5 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Утиные истории».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.30, 19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.25** Стрим-спектакль «Все будет хорошоу».
**10.20** Мультильм «Добрыня Никитич и змей Горыныч».
**11.30** Х/ф **«ВЧЕРА».**
**13.30, 18.45** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.15** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**17.10** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**18.30** «Фешн is my профешн».
**19.45** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ГОЛОВА МЕДУЗЫ».**
**0.15** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**

### ПЯТНИЦА, 6 НОЯБРЯ

**7.00, 16.00, 21.10, 2.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.10** «Мульт-парад».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25, 19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.30** Стрим-спектакль «Золотое сердечко» (Архив СБ ТВ).
**10.25** Х/ф **«ГОЛОВА МЕДУЗЫ».**
**13.30, 18.35** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.25** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**17.40** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**19.45** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК».**
**1.35** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**

### СУББОТА, 7 НОЯБРЯ

**7.00, 15.45, 18.55, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Вперед».
**8.50** «Приколы 13-й школы».
**8.55** Х/ф **«СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ».**
**10.30** Х/ф **«ГОСУДАРЫНЯ».**
**15.50** «Смотрим всей семьей»: «Три орешка для Золушки».
**17.15** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**19.00** Х/ф **«ШПИОН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«БОГЕМСКАЯ РАПСОДИЯ».**
**23.30** Х/ф **«В ДЖАЗЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**1.30** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 НОЯБРЯ

**7.00, 15.25, 17.00, 21.05, 0.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Три богатыря и наследница престола».
**8.25** «Приколы 13-й школы».
**8.30** Х/ф **«ВОСТОЧНЫЙ ВЕТЕР».**
**10.20** Х/ф **«ГОСУДАРЫНЯ».**
**15.30** «Смотрим всей семьей». «Скуби Ду «.
**17.05** «Детектив на экране»: «Слоны умеют помнить».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ДЕСЯТЬ ЛЕТ СПУСТЯ».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«В МЕТРЕ ДРУГ ОТ ДРУГА».**
**23.05** Х/ф **«ГРЕЙХАУНД».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 НОЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**7.30** Гость в студии.
**8.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**11.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК 2».**
**13.00** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**14.30** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**16.00** Х/ф **«ШЕФ».**
**17.40** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.15** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 3 НОЯБРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.15** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**12.00** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**13.50** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.40** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**17.50, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.15** Х/ф **«НОЧНАЯ СМЕНА».**

### СРЕДА, 4 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Фрагменты истории.
**8.15** А знаете ли вы?
**10.00** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ».**
**13.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**16.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**19.35** Гость в студии.
**20.15** Свет души.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 5 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Следопыт.
**7.30, 19.45** Гость в студии.
**8.15** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**12.15** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**13.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ. В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ».**
**16.00** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**18.25** Новости БЖД.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Протокол.
**20.15** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 6 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.15** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**12.05** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**15.40** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**17.30** Новости БЖД.
**19.15** Следопыт.
**20.15** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 7 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**10.35** Х/ф **«ГОСТЬ В СТУДИИ».**
**11.55** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**13.25** Х/ф **«СУПЕРМОГЗГ».**
**15.50** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.50** Афиша.
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Новости БЖД.
**21.30** Гость в студии.
**22.15** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 НОЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКСИ».**
**8.00** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**10.00** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**11.50** Х/ф **«ТАКСИ 2».**
**13.20** Х/ф **«ТАКСИ 3».**
**15.00** Х/ф **«ТАКСИ 4».**
**16.35** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**18.25** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!».**

## Беларусь 1

**6.40** Х/ф **«ЗЛОУМЫШЛЕННИЦА».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.20** Родные люди.
**10.40** Зона Х. Итоги недели.
**11.10** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ОТОГРЕЙ МОЕ СЕРДЦЕ».**
**14.30** Маршрут построен.
**15.15** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН».**
**16.10** Один день.
**16.40, 19.10** Х/ф **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛЮБВИ».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«ОЖИДАЕТСЯ УРАГАННЫЙ ВЕТЕР».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.25, 19.40** Телебарометр.
**9.30** «До свидания». Реалити-шоу.
**10.15** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.
**11.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**12.10** Фильм-фэнтези «Малефисента».
**13.45** Х/ф **«ТАК СЕБЕ КАНИКУЛЫ».**
**15.20** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«ИСКУССТВО УКРАСТЬ».**
**23.00** Х/ф **«ЗАТМЕНИЕ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.10** Навіны культуры.
**8.20** «Гэты дзень».
**8.25** «Дзень добры і бывай». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Марынаваны карась.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Сабачае сэрца». Мастацкі фільм.
**14.30** Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Канцэрт да 250-годдзя з дня нараджэння Людвіга ван Бетховена.
**16.05** «Камертон». Народная артыстка Беларусі Людміла Корхава.
**16.30** Юбілейны канцэрт Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі».
**18.00** «Мядовы месяц». Мастацкі фільм [СТ].
**19.35** «Кадры жыцця». Сцэнарыст, рэжысёр, прадзюсар, паэт, мастак, педагог Аляксандр Карпаў.
**20.25** «Культурны рэпартаж». Анімаёўка.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Каханне зямное». Мастацкі фільм [СТ].
**22.40** «Лёс». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.15** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.15** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».
**9.35** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.55** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**11.30** «Видели видео?».
**14.15** Х/ф **«СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ».**
**16.20** Премьера. Лев Лещенко, «Самоцветы» и другие в юбилее ансамбля «Ариэль».
**17.40, 18.20** «Три аккорда». Новый сезон.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Что? Где? Когда?». Осенняя серия игр. Финал.
**22.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.00** Х/ф **«БАТАЛЬОН».**

## СТВ

**6.30, 22.05** «Легенды СССР».
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** Документальный проект.
**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ПО ЗАКОНАМ ВОЕННОГО ВРЕМЕНИ 2».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.
**6.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**
**8.50** «Наше кино. История большой любви». Покровские ворота.
**9.25** «ФазендаЛайф». Гостиная «Малахитовая шкатулка».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15, 19.30, 1.00, 1.40** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05** «Наукомания».
**6.40** «50 рецептов первого».
**7.15** «Кто в доме хозяин?».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.50** Беларусы.
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Первая передача».
**10.50** «Чудо техники».
**11.35** «Дачный ответ».
**12.35** Истории спасения.
**13.05** «НашПотребНадзор».
**14.05** Исторический детектив «Ростов».
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.25** «Основано на реальных событиях».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«ЧУЖАЯ СЕСТРА».**
**10.20, 11.10** Х/ф **«СИЛА ЛЮБВИ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**14.00** Х/ф **«ЛЕГЕНДА №17».**
**16.30** Х/ф **«СНЕЖНАЯ КОРОЛЕВА».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях с Вадимом Щегловым».
**21.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРИХОДИТ НЕ ОДНА».**
**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**7.05, 8.40, 10.20, 13.45, 15.30, 17.10** Шерлок. **12.00** Шерлок: Безобразная Невеста. **19.00** Семейка Аддамс. **20.50** Ценности семейки Аддамс. **22.25** Призрак дома на холме. **0.30** Дракула. **2.00** Византия. **3.50** Я, Франкенштейн. **5.15** Дивергент.

### TV1000 ACTION

**7.10** Паранормальное. **9.25** Женщина в чёрном. **11.00** Мальчики-налётчики. **12.50** Стелс. **14.55** Телепорт. **16.25** Чёрный ястреб. **19.00** Джек Ричер. **21.15** Джек Ричер 2: Никогда не возвращайся. **23.15** Ронин. **1.15** Отчаянный. **3.20** Однажды в Мексике. **5.10** Уцелевшая.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.25** Гардемарины III. **9.15** Гуляй, Вася! **11.00** Непрощённый. **13.10** Ворошиловский стрелок. **15.00, 15.55, 17.00, 17.55** Турецкий гамбит. **19.00** Статский советник. **21.30** Калашников. **23.35** Адмиралъ. **1.45** 28 панфиловцев. **3.55** Танки. **5.30** Кома.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **7.30** «Новый день». **8.00** Х/ф **«СОКРОВИЩА БЕТХОВЕНА». 10.00** Х/ф **«КАПИТАН ЗУМ: АКАДЕМИЯ СУПЕРГЕРОЕВ». 11.45** Х/ф **«СОЛДАТ». 13.45** Х/ф **«КРЕДО УБИЙЦЫ». 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00** Т/с **«АВАНПОСТ». 22.00** Д/ф «АВАНПОСТ. КИБЕРПАНКИ В ГОРОДЕ». **23.00** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ: ИСПЫТАНИЕ ОГНЁМ». 1.30, 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ДЕВЯТЬ МЕСЯЦЕВ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЖЕНСКИЕ МЕЧТЫ О ДАЛЬНИХ СТРАНАХ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ПОЗДНИЙ СРОК». 14.00, 22.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. ОБОРОТЕНЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«СПАСИТЕ НАШИ ДУШИ». 0.00, 1.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 2.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ». 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ.СЧАСТЬЕ ВЗАЙМЫ». 6.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. МАНЬЯК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.40** Х/ф **«СЕРДЦЕЕД». 4.20** Х/ф **«БЛЕФ». 6.30** Х/ф **«КРАСОТКИ». 8.15** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ». 10.15** Х/ф **«ЧЕТЫРЕ СВАДЬБЫ И ОДНИ ПОХОРОНЫ». 12.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С РИСКОМ ДЛЯ ЖИЗНИ». 14.10** Х/ф **«ЕСЛИ СВЕКРОВЬ – МОНСТР...». 16.10** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ». 17.45** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЁТ ПРИРОДА». 19.30** Х/ф **«НЕЗВАНЫЕ ГОСТИ». 21.45** Х/ф **«БЕЗУМНЫЕ СОСЕДИ». 23.25** Х/ф **«ДИКИЕ ИСТОРИИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05** Т/с **«ШЕЛЕСТ». 1.05, 3.35, 23.25** Т/с **«ЛЮТЕР». 5.30, 6.25, 7.20, 8.15, 9.10, 10.05** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 11.00, 12.00, 13.00, 14.00** Т/с **«ЯЛТА-45». 14.55, 16.00, 17.05, 18.05, 19.15, 20.20, 21.25, 22.25** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.45** «ЛОВИ МОМЕНТ». **9.10, 16.15, 22.00** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ». 14.40** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 2». 16.45** Фэнтези «ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ». **19.00** Х/ф **«ПОСЛЕ НАШЕЙ ЭРЫ». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.40** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.20** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **0.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.10** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Гандбол. Квалификация к ЧЕ-2022. Мужчины. Россия – Украина. **7.55** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск – Автодор (Саратов). **9.30** Фигурное катание. Гран-при. Чунцин. Гала-шоу. **11.35** Вот это спорт! **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. ВРЗ (Гомель) – Столица (Минск). **13.55** Плавание. Лига ISL. **15.55** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **16.25** Пит-стоп. **16.55** Спорт-центр. **18.50** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **19.30, 22.05** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.25** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00, 0.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. **1.00** Ралли. ERC. Венгрия. **1.30, 19.35, 20.00** Самбо. Чемпионат мира. **2.30, 5.00, 10.30, 15.30** Велоспорт. «Вуэльта». 17-й этап. **3.30** Снукер. English Open. 1/2 финала. **7.00** Автогонки. WTCR. Арагон. Первая гонка. **7.30** Автогонки. WTCR. Арагон. Вторая гонка. **8.00** Автогонки. WTCR. Арагон. Третья гонка. **8.30** Снукер. English Open. Финал. Трамп – Н. Робертсон. **12.30** Велоспорт. Челлендж-2019. Мадрид. Женщины. **13.30** Велоспорт. Челлендж-2020. Мадрид. Женщины. **16.40, 22.00** Велоспорт. «Вуэльта». 18-й этап. **23.15** Велокросс. Чемпионат Европы.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Все включено. **6.15, 17.20** Металлоломщики. **7.00, 18.15** Автовинтаж. **7.30, 8.00** Самообслуживание. **7.45, 10.00, 13.00, 16.20, 19.00, 23.15, 1.25, 3.45** Итоговые новости. **8.15** Тест в большом городе. **9.25, 10.50** Возвращение легенды. **10.20** Все включено. Эксклюзив. **10.35** Вторичка. **11.25, 19.25, 22.30** На «Буханке» вокруг света. **11.40, 18.45, 22.40** Автолайф. **11.50, 19.55, 22.55** Дома на колесах. **12.10, 20.15, 23.35, 4.00** Стальные парни. **13.15, 0.25** Испытание на прочность. **14.20, 1.40** Тест на «Драйве». **15.25** Эконом-тест. Эксклюзив. **15.50, 16.35** Гаражная команда. **17.05, 22.05** Авто: вторые руки. **19.20, 5.20** Наезд! **21.05** Поездка выходного дня. **21.35, 5.30** Норильск – Диксон. Есть рекорд! **2.40** Сити-тестер. Эксклюзив. **3.05** Тест с дядей Ваней. **4.50** Автомобильные музеи мира.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35** Рыбалка со звездами. **10.25, 0.35** Невероятная рыбалка. **11.15, 19.25** Австралийское мега-метро. **12.20, 22.10** Поисковая команда в Австралии. **13.05, 13.35, 21.15, 21.40** Австралийские ловцы быков. **14.00, 14.45, 15.30, 16.20, 17.05, 17.55, 18.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.55, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **1.25** Лесные люди. **2.05, 2.55, 3.45** Дикая Монтана. **4.30** Адские грузовики. **5.20** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.00, 6.25** Невероятные изобретения. **6.50, 7.35, 2.25, 3.10** Музейные тайны. **8.20, 9.05, 11.40** Запретная история. **9.55, 10.50** Земля больших кошек. **12.30, 17.45** Расшифровка тайн. **13.15** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **14.05, 15.00, 15.55** Последний поход викингов. **16.50, 20.05** Древние суперстроения. **18.30** По следам вождя гуннов Аттилы. **19.15** Титаник: истории из глубины. **21.00** Разгадка тайны пирамид. **21.50** Оружейники: искусство войны. **22.40, 23.30** Карты убийства. **0.15, 1.20** История христианства. **3.55** Охота за сокровищами нацистов. **4.40** Побег от Гитлера. **5.30** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40, 21.55, 22.45** Выживание в дикой природе. **8.30, 9.25, 10.25** Гениальные морские охотники. **11.20, 12.15** Дикая Канада II. **13.10, 14.05** Дикая Латинская Америка. **15.00, 21.00** Дикий Токио. **15.55** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **16.40** Мир природы: леопарды – неестественная история. **17.35, 18.30** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **19.20, 20.10** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **23.35** Невероятные встречи с животными. **0.25** Хищные питомцы. **1.15, 4.55** Мутации погоды. **2.00** Анатомия крупнейших животных. **2.50, 3.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.25** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Сделать за один день. **6.20, 7.05** Авто-SOS. **7.55, 8.45** Суперкар со свалки. **9.35** Лаошань: Китайская святая гора. **10.25** Китайское видение будущего. **11.15, 12.10** Машины: Разобрать и продать. **13.00, 13.50** Настоящий суперкар. **14.40** Мегамосты. **15.35** Труднейший в мире ремонт. **16.25** Сканируя время. **17.15** Строительство тоннеля. **18.05** Европа с высоты птичьего полета. **18.55** Диана: Утерянные кадры. **21.00** Жизнь королевы. **21.50** Король, обманувший Гитлера. **22.40** Братья по оружию. **23.30, 0.25** Враждебная планета. **1.15, 2.00, 2.45, 5.15** Осушить океан: глубокое погружение. **3.35, 4.25** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 14.05** Охота и рыбалка в. **6.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 11.00, 15.05, 19.00** Мой мир – рыбалка. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 12.00, 16.05, 20.00, 0.00, 4.05** Рыбалка 360. **8.25, 12.30, 16.35, 20.30, 0.30, 4.35** Давай зарубимся! **8.40, 12.45, 20.45, 0.45, 4.50** Популярная охота. **8.55, 13.00, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.30, 13.35, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **10.30, 14.35, 18.30** Профессиональная рыболовная лига. **11.30, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **23.00, 3.10** Рыбалка в России. **2.55** Охоты и охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.50, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 13.05, 17.00, 21.30, 0.55, 5.05** Домик в Америке. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.35, 17.30, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **10.05, 10.20** Огород круглый год. **10.35** Варенье. **15.10** Огород круглый год. **20.55** Чудеса, диковины и сокровища. **1.55** Квас.

# Іх прозвішчы і імёны складаюць наш нацыянальны гонар

## Сымон Барыс – аб братах-асветніках з нашага рэгіёна і Беларусі

**За апошнія два стагоддзі некалькі братоў з розных родаў, што жылі ў нашай краіне, пакінулі значны след у гісторыі Беларусі. Лічу, што кожны настаўнік гісторыі і беларускай мовы і літаратуры павінен ведаць гэтыя прозвішчы і тое, што браты-асветнікі зрабілі для Радзімы. Яны вядомыя не толькі як навукоўцы, дзеячы культуры, але і як грамадскія дзеячы.**



Тадзік, Юрка і Вацік Іваноўскія.

Лёсы братоў Цвікевічаў, Лёсікаў і Луцкевічаў незайдросныя, бо яны пацярпелі за грамадскую дзейнасць і беларусазнаўства, сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Упэўнены: гэтыя прозвішчы і імёны з'яўляюцца нашым нацыянальным гонарам.

**Басалыгі Дзмітры** (1884, вёска Варкавічы Слуцкага раёна – 1969, Масква) і **Канстанцін** (1887, вёска Варкавічы Слуцкага раёна – 1963) **Мікалаевічы**.

**Басалыгі Уладзімір** (1940, Слуцк – 2020) і **Міхаіл** (нарадзіўся ў 1942, Слуцк) **Самойлавічы**.

**Гараўскія Апалінар** (1833, маёнтак Уборкі Ігуменскага павета, цяпер вёска ў Дукорскім сельсавеце Пухавіцкага раёна – 1900), **Іпаліт** (1828, Уборкі – пасля 1864) і **Гіляры** (1847, маёнтак Уборкі, пасля 1875) **Гілярыевічы**.

**Гарэцкія Гаўрыла** (1900, вёска Багацькаўка Мсціслаўскага раёна – 1988) і **Максім** (1893, вёска Багацькаўка Мсціслаўскага раёна – 1938) **Іванавічы**.

**Гілевічы Ніл** (1931, вёска Слабада Лагойскага раёна – 2016, Мінск) і **Мікола Гіль** – (нарадзіўся ў 1936 годзе) **Сымонавічы**.

**Грыцкевічы Анатоль** (1929, Мінск – 2015, Мінск) і **Валянцін** (1933, Мінск – 2013, Санкт-Пецярбург) **Пятровічы**.

**Дыбоўскія Бенядзікт** (1833, маёнтак Адамарын Вілейскага павета, цяпер Маладзечанскі раён – 1930) і **Уладзіслаў** (1838, маёнтак Адамарын – 1910) **Іванавічы**.

**Ельскія Міхаіл** (1831, вёска Дудзічы Пухавіцкага раёна – 1904) і **Аляксандр** (1834, вёска Дудзічы Пухавіцкага раёна – 1916) **Карлавічы**.

**Іваноўскія Вацлаў** (1880, фальварак Лябёдка, цяпер у межах вёскі Галавічполе Шчучынскага раёна – 1943, Мінск) і **Тадэвуш** (1882, там жа – 1970, Каўнас) **Леанардавічы**.

**Каліноўскія Віктар Отан** (1833, вёска Мастаўляны Гродзенскага павета, цяпер Беласточчына, Польшча – 1862, фальварак Якушоўка, каля Свіслачы) і **Кастусь Вінцук** (1838, Мастаўляны – 1864, Вільня) **Сымонавічы**.

**Касовічы Ігнацій** (1808, Полацк – 1878, Санкт-Пецярбург) і **Каэтан** (1814, Віцебская губерня – 1883, Варшава) **Андрэевічы**.

**Ластоўскія Вацлаў** (1883, засценак Калеснікаў, цяпер Глыбоцкі раён – 1938) і **Гладкі-Ластоўскі Юстын** (каля 1870 – пасля 1931) **Юстынавічы**.

**Лёсікі Язэп** (1883, вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна – 1940, Саратаў) і **Антон** (1872, вёска Мікалаеўшчына – 1949, вёска Мікалаеўшчына) **Юр'евічы**.

**Луцкевічы Іван** (1881, горад Шаўляй, Літва – 1919) і **Антон** (1884, горад Шаўляй – 1946?) **Іванавічы**.

**Лычы Лявон** (нарадзіўся ў 1929, у мястэчку Магільнае Уздзенскага раёна) і **Генадзь** (нарадзіўся ў 1935 там жа) **Міхайлавічы**.

**Міцкевічы Кастусь** (1882, вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна – 1956) і **Міхась** (1897, вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна – 1991) **Міхайлавічы**. Вядомыя як **Якуб Колас** і **Антось Галіна**.

**Сачанкі Барыс** (1936, вёска Вялікі Бор Хойніцкага раёна – 1995, Мінск), **Іван** (нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна) і **Алесь** (нарадзіўся ў 1940 годзе там жа) **Іванавічы**.

**Станкевічы Адам** (06.01.1892, вёска Арляняты Смаргонскага раёна – 29.11.1949, горад Тайшэт, Іркуцкая вобласць) і **Ян** (26.11.1891, вёска Арляняты Смаргонскага раёна – 16.08.1976, Хотарн, ЗША) – стрыечныя браты.

**Стаповічы Альбін** (1894, вёска Барані Астравецкага раёна – 1934, Вільня) і **Кастусь** (вёска Барані 1890 – 1926, Вільня) **Мацвеевічы**. Вядомыя пад псеўданімамі **Уладзімір Загорскі** і **Казімір Сваяк** адпаведна.

**Тышкевічы Канстанцін** (1806, мястэчка Лагойск – 1868) і **Яўстах** (1814, мястэчка Лагойск – 1873) **Піевічы**.

**Хлябцэвічы Яўген** (1884, мястэчка Жыровічы Слонімскага павета – 1955, Масква) і **Уладзімір** (1894, мястэчка Жыровічы Слонімскага павета – 1917, Петраград) **Іванавічы**.

**Урублеўскія Жыгімонт** (1845, Гродна – 1888, Кракаў), **Эдуард** (1848, Гродна – 1892,Санкт-Пецярбург) і **Валеры** (1836, мястэчка Жалудок Лідскага павета – 1908, Францыя) **Антонавічы**.

**Ходзькі Аляксандр** (1804, мястэчка Крывічы Вілейскага павета – 1891) і **Міхал** (1808, мястэчка Крывічы Вілейскага павета – 1879) **Янавічы**.

**Цвікевічы Аляксандр** (1888, Брэст – 1937) і **Іван** (1891, Брэст – 1938) **Іванавічы**.

**Ціхановічы Валянцін** (28.08.1909, Вільня – 25.08.1978) і **Яўген** (1911, станіца Джусалы, Казахстан – 2005, Мінск) **Мікалаевічы**. Сын Яўгена – мастак **Генрых Ціхановіч** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску.

**Янушкевічы Адольф Міхал Валяр'ян Юліян** (1803, Нясвіж – 1857, вёска Дзягільна Дзяржынскага раёна) і **Яўстаф** (1805, вёска Прусы Салігорскага раёна – 1874) **Міхайлавічы**.

**Янушкевічы Фелікс** (нарадзіўся ў 1954 у Ракаве на Валожыншчыне), **Язэп** (нарадзіўся ў 1959 годзе там жа) і **Валяр'ян** (нарадзіўся ў 1962 годзе там жа) **Язэпавічы**

**Сымон БАРЫС,**
**Мінск.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

Артыкул друкуецца паводле новай кнігі Сымона Барыса «Гонар і слава Беларусі», якая выйшла ў свет сёлета ў красавіку накладам сто штук.

**● КАЛЯНДАР**

### 30 КАСТРЫЧНІКА

**1883.** У в. Лакцяны на Астравеччыне нарадзіўся **Янка Быліна** (Ян Семашкевіч), беларускі паэт і драматург, рыма-каталіцкі святар.



**1921.** Афіцыйна адкрыўся Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

### 31 КАСТРЫЧНІКА

**1905.** Курлоўскі расстрэл. Каля Віленскага вакзала ў Мінску па загадзе губернатара Паўла Курлова расстраляны мітынг супраць самадзяржаўя. Загінулі 100 чалавек, 300 паранены.

**1961.** Цела Сталіна вынеслі з маўзалея Леніна.

### 1 ЛІСТАПАДА

**1998.** Заснаваны Еўрапейскі суд па правах чалавека.

### 2 ЛІСТАПАДА

**1939.** Вярхоўны Савет СССР прыняў закон пра далучэнне Заходняй Беларусі да СССР і ўключэнне яе ў склад БССР.

**1942.** Нацыстамі знішчана гета ў Ружанах на Брэстчыне.

### 3 ЛІСТАПАДА

**1888.** Нарадзіўся **Якуб Колас**, беларускі празаік, паэт, педагог, навуковец, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы (пам. 3.08.1956).

**1961.** У Мінску дэмантаваны помнік Сталіну.

### 4 ЛІСТАПАДА

**1794.** Расійскія войскі Аляксандра Суворава падчас паўстання 1794 года ўзялі штурмам прадмесце Варшавы Прагу. Пасля чаго кароль Рэчы Паспалітай і яго прыхільнікі настаялі на капітуляцыі Варшавы.

### 5 ЛІСТАПАДА

**1893.** У Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс) нарадзіўся **Кастусь Езавітаў**, беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог.

**1922.** Адбыліся выбары ў Сойм Польскай Рэспублікі, у які ад Блока нацыянальных меншасцяў трапіла 11 беларусаў.

**1935.** Выпушчаная настольная гульня «Манаполія».

**1939.** У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылася прэм'ера першага нацыянальнага балета «Салавей» па аднайменным творы Змітрака Бядулі.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Расійская прапаганда хоча зафіксаваць інтэграцыю ў беларускай Канстытуцыі

**У апошні час у Беларусі шмат абмяркоўваюць магчымасць змянення Канстытуцыі. Папраўкі прапанаваў Лукашэнка пасля выбараў, але яшчэ на пачатку выбарчай гонкі пра новую Канстытуцыю гаварыў Віктар Бабарыка.**




Фота tut.by

Беларускую павестку па канстытуцыйных папраўках падхапілі расійскія прапагандысты. «Рэгіянальная газета» расказвае, чаму расійскаму боку выгадныя хуткія папраўкі і пры чым тут Саюзная дзяржава.

### Што такое Канстытуцыя і навошта яна патрэбная

Канстытуцыя – гэта Асноўны закон дзяржавы, у якім змяшчаюцца асновы палітычнай, прававой і эканамічнай сістэм краіны. Канстытуцыя мае вышэйшую юрыдычную сілу.

**Канстытуцыі з'яўляюцца асновай кіравання практычна ва ўсіх грамадствах па ўсім свеце.**

Яны адначасова ствараюць, пашыраюць магчымасці і абмяжоўваюць інстытуты, якія кіруюць грамадствам. Пры гэтым яны цесна звязаныя з даваннем грамадскіх даброт, таму Канстытуцыю лічаць дамовай паміж дзяржавай і грамадствам. У ёй выкладаюцца галоўныя правілы жыцця грамадства, якое яно для сябе абрала.

У сучаснай Беларусі дзейнічае Канстытуцыя 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскіх рэферэндумах 1996 і 2004 гадоў. У 1996 годзе істотная частка змен закранала пераразмеркаванне паўнамоцтваў на карысць выканаўчай улады і прэзідэнта. На рэферэндуме 1995 года было пытанне «Ці згодныя Вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай?». А дзяржаўны статус руская мова атрымала пасля змянення Канстытуцыі ў 1996 годзе.

### Чаму цяпер у Беларусі хочуць змяніць Канстытуцыю

У Беларусі актыўна абмяркоўваюць будучыню Канстытуцыі. Кандыдат у кандыдаты ў прэзідэнты **Віктар Бабарыка** выступаў за новую Канстытуцыю з падзелам улад, як было ў Канстытуцыі 1994 года.

**Аляксандр Лукашэнка** некалькі гадоў выказваецца пра змяненні да Канстытуцыі. Аднак ён лічыць, што нельга вяртацца да Асноўнага закону ўзору 1994 года.

Цяпер прэм'ер-міністр **Раман Галоўчанка** сцвярджае, што Усебеларускі сход, на якім будуць абмяркоўваць папраўкі, пройдзе ў першыя месяцы 2021 года.

Хуткую падрыхтоўку палітолагі звязваюць з ціскам з боку Расіі. Па меркаванні палітолага **Валера Карбалевіча**, прэзідэнт Расіі **Уладзімір Пуцін** не хоча, каб Лукашэнка сышоў з пасады ў выніку пратэстаў, якія не сціхаюць у Беларусі ўжо трэці месяц. А вось зыход беларускага калегі ў выніку канстытуцыйнай рэформы – гэта іншая справа.

Таму прарасійскія медыя актывізаваліся і шмат пішуць пра дзеючую беларускую Канстытуцыю, пра неабходнасць яе змены.

### Асаблівая роля Расіі ў беларускай Канстытуцыі

На інтэрнэт-рэсурсе sonar2050 **Васіль Калташоў** піша, што ў Беларусі трэба змяняць Канстытуцыю, таму што яна цяпер не працуе для народа, прэзідэнцкія паўнамоцтвы значна абмяжоўваюць дзейнасць парламента. Галоўны пасыл артыкула – змяненні ў беларускай Канстытуцыі патрэбныя для пашырэння расійска-беларускіх адносін, а менавіта для паглыблення інтэграцыі і развіцця Саюзнай дзяржавы.

«Зусім асаблівым і вельмі важным у цяперашніх умовах «артыкулам» новай Канстытуцыі павінна стаць еўразійскае супрацоўніцтва», – піша Калташоў.

**Расійскі аўтар прапаноўвае, каб у галоўным беларускім прававым акце прапісаць асаблівую ролю Саюзнай дзяржавы.**

Трэба адзначыць, што ў расійскай Канстытуцыі такіх артыкулаў няма. Наадварот, пасля паправак у ліпені 2020 года да Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі дадалі, што ўнутрыдзяржаўныя акты маюць мацнейшую юрыдычную сілу за міжнародныя дамовы.

«Змена Канстытуцыі Беларусі цяпер – гэта зусім не пытанне змякчэння сацыяльна-палітычнага крызісу ў краіне. Гэта магчымасць задаць на ўзроўні вышэйшага прававога акта новую траекторыю развіцця», – сцвярджае Калташоў.

Калташоў прызнае, што трохмесячныя пратэсты ў Беларусі з'яўляюцца сацыяльна-палітычнам крызісам, аднак Канстытуцыя – гэта не сродак, які можа гэты крызіс спыніць. Пад новай траекторыяй развіцця Калташоў мае на ўвазе паглыбленне адносін з Расіяй, аб чым піша далей у артыкуле.

«Аднак цяпер трэба не толькі задаволіць розныя дэмакратычныя і прававыя запыты грамадства, адсякаючы пры гэтым розных заходніх марыянетак, але і адкрыць для цяперашняй дзяржавы дарогу развіцця. А гэта магчыма толькі разам з Расіяй, у адзінстве народа і эканомікі абедзвюх дзяржаў».

Аўтар разбурае эфектыўнасць шматвектарнай міжнароднай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, аб чым кажа і ў пачатку, і напрыканцы артыкула.

**Па меркаванні Калташова, адзіная будучыня Беларусі – гэта палітычны і эканамічны саюз з Расіяй. Менавіта ў шматвектарнасці Калташоў бачыць памылку Лукашэнкі ва ўнутранай палітыцы.**

«І калі ідэя збліжэння Расіі і Беларусі атрымае перавагу ў праекце новага асноўнага закона, калі яна будзе компасам працэсу ў яго напісанні, то будзе лагічна многае пазычаць з Канстытуцыі Расіі», – завяршае Калташоў.

У расійскай Канстытуцыі ў ліпені былі ўнесеныя значныя змяненні. Напрыклад, прэзідэнт атрымаў большыя паўнамоцтвы. А ў артыкуле Калташоў наадварот заяўляе, што інстытут прэзідэнцтва з такімі шырокімі паўнамоцтвамі значна шкодзіць Беларусі.

**Калташоў неаднаразова падкрэслівае недахопы беларускай Канстытуцыі, аднак у расійскай Канстытуцыі гэтыя «недахопы» ўнеслі ў новую рэдакцыю ў гэтым ліпені.**

Агулам сэнс публікацыі прапагандыста – справакаваць паглыбленне інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй на ўзроўні асноўнага закона краіны.

**Настасся УТКІНА.**

# Пра смерць роднага чалавека даведалася не ад міліцыі, а па сарафанным радыё

## Жыхарка Маладзечаншчыны – пра смерць сястры

**«Цяжка жыць без аднаго члена сям'і, а без двух – немагчыма» – так напісаў на сваёй старонцы ў сацсетках 14-гадовы Сяргей. Ужо амаль месяц, як мамы хлопчыка няма сярод жывых, а тата знаходзіцца пад следствам. Яго падазраюць у забойстве мамы. Сярожа цяпер жыве ў Мінску ў сваякоў, пайшоў у новую школу, прывыкае.**




Сястра загінулай лічыць, што, каб тая своечасова сышла ад мужа, трагедыі магло б і не адбыцца.

МАЛАДЗЕЧНА

Трагедыя здарылася ў адной з вёсак Маладзечанскага раёна гэтай восенню. Як напісана ў афіцыйным паведамленні Следчага камітэта Беларусі, ноччу супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі 38-гадовага вяскоўца, якога падазраюць у забойстве сваёй 35-гадовай жонкі. Забойства здарылася ў двары знаёмага. Аб здарэнні на лінію 102 паведамiў 41-гадовы мясцовы жыхар, які ўбачыў жанчыну ў лужыне крыві без прыкмет жыцця ў суседскім двары.

### Сястра загінулай: Пра смерць даведаліся ад знаёмых

Сваімі перажываннямі і думкамі пра тое, чаму так адбылося, з намі падзялілася сястра загінулай, **Таццяна**, якая жыла з ёй у адной вёсцы.

– Крыўдна да слёз было чытаць афіцыйнае паведамленне Следчага камітэта. Канешне, праблемы з алкаголем сястра мела. Але яна не была беспрацоўнай, як паведамляе афіцыйная інфармацыя, і ўвогуле не баялася працы. Штодзень ездзіла на рынак «Лябяжы», працавала ў кафэ. Толькі ў панядзелак быў выхадны. А муж яе сапраўды не працаваў доўгі час. Толькі апошні месяц яна неяк угаварыла яго ўладкавацца на працу, і яны ездзілі разам. Сёлета ў сакавіку сястра падала на аліменты, але так і не дачакалася іх.

Абураная жанчына і тым, што пра страшнае здарэнне даведалася не ад міліцыі, а ад знаёмых у вёсцы. «Праз сарафаннае радыё», адзначае суразмоўца:

– Некалькі дзён былі не на сувязі з сястрой. Яна згубіла мабільнік летам у лесе, а новы не купіла. Трагедыя здарылася позна вечарам у пятніцу. А я даведалася бліжэй да дзесяці раніцы, у суботу. Мне патэлефанаваў сын і сказаў: «Каця – у моргу, яе муж – у турме». Я, канешне, не паверыла. Была ўпэўненая, што такія навіны міліцыя павінна паведамляць. Ды і цяпер пра ход расследавання мне, бліжэйшай сваячцы, нічога не кажуць.

Усё яшчэ не верачы ў жахлівае, мая суразмоўца набрала нумар міліцыі і спытала ў дзяжурнага, дзе яна можа даведацца, ці сапраўды адбылася трагедыя.

– Далі нейкі нумар. Я патэлефанавала, расказала сітуацыю. Адразу няветліва спыталі, навошта мне гэта ведаць. Сказала, каму, як ні мне, я ж родная сястра. Тады інфармацыю пацвердзілі, – прыгадвае Таццяна падзеі той суботы.

### Сын аднолькава любіў і маму, і тату

Нязгодная Таццяна і з тым, што сястра не глядзела дзіця:

– Яна ўвесь час казала сыну, каб вучыўся. Сварылася, калі не рабіў урокі, па магчымасці правярала дамашняе заданне. Часам нават злавала, што дзіця не слухаецца. А сын часта слухаў больш тату. Цягнуўся да тэхнікі, корпаўся разам з бацькам ля матацыкла і трактара, хадзіў на рыбалку. Часам тата з сынам і ўрокі рабіў, – прыгадвае суразмоўца. – У мяне складваецца ўражанне, што сястра цярпела дзеля сына, які любіў бацьку. Яны некалькі разоў разыходзіліся, але праз нейкі час сыходзіліся з-за дзіцяці. Сын хацеў жыць і з татам, і з мамай. Праўда, калі стаў больш дарослым, часам мог заступіцца за маму перад бацькам.

Па словах Тацццяны, муж неаднаразова падымаў руку на яе сястру. Часам пасля пабояў жанчына нават ляжала ў бальніцы. Пасля аднаго з такіх разоў вярнулася з бальніцы і пайшла жыць на кватэру. А праз нейкі час муж сам прыйшоў да яе. І ўсё пачалося наноў.

– І я як старэйшая сястра, і знаёмыя не раз казалі Каці, каб сыходзіла ад мужа. Але яна не асабліва слухала нас, – дзеліцца суразмоўца.

### Чаму здарылася бяда

Мая суразмоўца не адмаўляе, што сям'я сястры мела праблемы з алкаголем. Усё пачыналася паступова:

– Адзін дзень – трохі вып'е, другі... А жанчыне шмат не трэба. Калі Сярожы было чатыры гады, яго забіралі з сям'і. Бацькам казалі закадзіравацца і падаць даведкі. Тады дзіця вярнулі. Але пасля каdзіроўкі сястра пачала піць яшчэ больш.

Цяпер мая суразмоўца часта думае пра тое, чаму адбылося жахлівае. І адказ у жанчыны адзін – прычына, перш за ўсё, у алкаголі:

– Так, муж на сястру не раз падымаў руку. Магчыма, і цяпер думаў: паб'ю, як звычайна, і ўсё абыдзецца. Не абышлося. Хутчэй за ўсё, каб сястра была цвярозая, каб у свой час рашылася сысці ад мужа, гэтага б не здарылася. Не зусім разумею і тых сведак, якія бачылі, што чалавека забіваюць, а не ўмяшаліся. У любым выпадку, сястру не вярнуць. А ўся гэта гісторыя, магчыма, паслужыць некаму ўрокам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каманды «Маладзечнамэблі» і «ММЦ» згулялі ў баскетбол

МАЛАДЗЕЧНА

**26 кастрычніка баскетбольныя каманды «Маладзечнамэблі» і «ММЦ» згулялі ў межах гарадской спартакіяды.**

Па словах прадстаўніка «Маладзечнамэблі», гульню правялі ў знак салідарнасці з баскетбалісткай **Аленай Леўчанкай** і ўсімі спартсменамі, якія сёння церпяць за сваю пазіцыю.

Як расказалі ўдзельнікі, у межах гарадской спартакіяды амаль штомесяц ладзяцца спаборніцтвы па якім-небудзь відзе спорту. Так, у верасні каманды спаборнічалі ў настольным тэнісе, цяпер – у баскетболе. Ладзяць таксама гульні ў дартс, гарадкі.

**Гульня завяршылася перамогай каманды «Маладзечнамэблі».**

Яе прадстаўнікі гулялі ў новай бел-чырвона-белай форме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Мяч у руках гульца каманды «Маладзечнамэблі».

## Маладзечанская ЦРБ прымае хворых на каронавірус

МАЛАДЗЕЧНА

Як паведамляе Міністэрства аховы здароўя, жыхары Міншчыны шпіталізуюцца ў Мінскі абласны процітуберкулёзны дыспансер, Барысаўскую бальніцу №2, Жодзінскую гарадскую цэнтральную бальніцу. А таксама ў цэнтральныя раённыя бальніцы – Маладзечна, Мар'інай Горкі, Слуцка, Стоўбцаў, Салігорска.

Агульная колькасць ложкаў у стацыянарах Мінскай вобласці складае 11 тысяч 519, у тым ліку на працу з COVID-19 – 1 тысяча 762.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

# Маладзечанцы маўкліва пратэстуюць

**У Маладзечне праходзяць маўклівыя пратэстныя акцыі, якія міліцыянеры не разганяюць, а затрыманых значна менш у параўнанні з папярэднімі акцыямі.**



Затрыманне Андрэя Будая на акцыі 26 кастрычніка.

### Нядзельныя шпацыры

Кожную нядзелю на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне збіраюцца людзі, якія шпацыруюць па алеі і плошчы на працягу некалькі гадзін. У гэту нядзелю маладзечанцы зноў удзельнічалі ў пратэстнай акцыі.

У нядзелю, 25 кастрычніка, скончыўся народны ўльтыматум **Святланы Ціханоўскай** да **Аляксандра Лукашэнкі**. У Ціханоўскай былі ўсяго тры патрабаванні:

**1.** Лукашэнка павінны абʼявіць аб зыходзе.

**2.** Гвалт на вуліцах павінны спыніцца цалкам.

**3.** Усе палітвязні павінны быць вызвалены.

Лукашэнка не выканаў патрабаванні – з-за гэтага людзі выйшлі на дэманстрацыі, у тым ліку і ў Маладзечне. 25 кастрычніка акцыя пачалася пасля 14 гадзін на Цэнтральнай плошчы. Людзі шпацыравалі ў бела-чырвоным адзенні, з шарыкамі і парасонамі такога ж колеру. Супрацоўнікі міліцыі патрулявалі алею і плошчу групамі па чатыры чалавекі.

> **Яны вялі відэаздымку людзей, аднак не падыходзілі да іх з патрабаваннямі разысціся. У выніку, людзі так гулялі некалькі гадзін, пасля чаго разышліся ў розныя бакі горада.**

Па нашых звестках, нікога ў той дзень не затрымалі за ўдзел у масавых несанкцыянаваных мерапрыемствах.

Увечары маладзечанцы працягваюць маўклівыя акцыі. Яны таксама збіраюцца ў цэнтры горада невялічкімі групамі. Там абмяркоўваюць сітуацыю ў Беларусі, расказваюць пра апошнія падзеі ў Маладзечне. У гэты час за людзьмі абавязкова назіраюць супрацоўнікі маладзечанскай міліцыі.

### Акцыя ў панядзелак

У панядзелак, 26 кастрычніка, у Маладзечне адбылася пратэстная акцыя.

> **Каля 18 гадзін на Цэнтральнай плошчы зʼявіліся два мужчыны з бел-чырвона-белымі сцягамі на плячах. «Рэгіянальная газета» даведалася, што аднаго з мужчын завуць Андрэй Будай.**



Сілавікі ў балаклавах здымаюць людзей на відэакамеру на акцыі 26 кастрычніка.

Пасля затрыманняў на плошчы пачалі збірацца людзі ў групы. Іх было каля некалькіх дзясяткаў. У хуткім часе туды падʼехалі два міліцэйскія аўтамабілі, з іх выйшлі два міліцыянеры, якія прайшлі па плошчы і вярнуліся да машыны. Пасля міліцыянеры ўзялі мегафон і пачалі падыходзіць да груп людзей, аднак тыя хутка адыходзілі ў бок алеі.

Каля алеі сабралася асноўная маса людзей. Яны спрабавалі гутарыць з міліцыянерамі, міліцыянеры гутарылі з людзьмі. У гэты час іншыя супрацоўнікі здымалі твары людзей на відэакамеру.

> **Адзін з супрацоўнікаў сказаў, каб людзі сышлі з плошчы ў парк – маўляў, там да іх ніхто з міліцыянераў падыходзіць не будзе.**

Людзі дайшлі да парку, каля галоўнага ўвахода ў яго сталі ў ланцуг. Машыны сігналілі ў падтрымку. Калі да ланцуга пачалі падыходзіць міліцыянеры, людзі хутка схаваліся ў парку. За імі пайшлі і сілавікі.

Людзі яшчэ некалькі разоў кропкава збіраліся, аднак у хуткім часе разыходзіліся. Міліцыянеры не рабілі ніякіх папярэджанняў праз мегафон аб несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, толькі здымалі людзей на відэа.

> **У 21 гадзіну на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Багдана Хмяльніцкага людзі сталі ў ланцуг салідарнасці.**

Там пратэстоўцы прастаялі нядоўга, да іх падʼехалі міліцыянеры, а людзі схаваліся ў парку. На гэтым акцыі ў той дзень завяршыліся.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Драўляны Вялес ад нарачанскага майстра прыехаў на Смаленшчыну

МЯДЗЕЛ

**Год таму ў курортны пасёлак Нарач прыехаў адпачываць турыст са Смаленшчыны. Неяк мужчына звярнуў увагу на драўляную скульптуру старажытнага бога Вялеса, якая ўпрыгожвае тэрыторыю аднаго з гатэляў.**

Распытаў у мясцовых жыхароў, што за майстар рабіў яго. Тыя падказалі — **Юрась Камандзірчык**. Знайшоўшы майстра, турыст звярнуўся да яго з адной просьбай. І восенню яшчэ адзін драўляны Вялес ад Камандзірчыка прыехаў на Смаленшчыну. Уласны твор скульптар сам даставіў на месца на легкавіку з прычэпам.

**Днямі скульптар расказаў карэспандэнту пра сваіх Вялесаў і, увогуле, пра персанажаў дахрысціянскай міфалогіі ў сваіх творах.**

Двух сваіх Вялесаў скульптар цяпер называе пабрацімамі. Зробленыя яны з дуба. Па словах майстра, для садова-паркавай скульптуры гэты матэрыял самы прымальны. Ён дакладна праслужыць некалькі дзесяцігоддзяў, а можа, і стагоддзяў, калі пад добрым дахам.

У свой час Юрась Камандзірчык зацікавіўся дахрысціянскай міфалогіяй нашых продкаў. Майстра вельмі кранула, што яны верылі сілам прыроды, Ярылу, Перуну. Мелі свой, дахрысціянскі, пантэон багоў. У гэтым пантэоне Вялес быў апекуном мудрасці і багацця, абаронцам спачатку дзікіх, а потым свойскіх жывёл. Таму жывёлы на абедзвюх скульптурах — побач з богам.

**— Вядома, што Вялес быў знаўцам розных чараў. Мяне вельмі натхніў вобраз Вялеса, створанага графіцістам Паўлам Татарнікавым. У яго бог — з доўгай сівой барадой і іграе на дудзе. У мяне свой Вялес, але дуда і барада засталіся.**

Вялес — не адзіны персанаж веры нашых продкаў, да якога звярнуўся майстар. З-пад рукі майстра ў свой час выйшла Купалінка — як увасабленне старажытнага дахрысціянскага свята яна стаіць у пасёлку. А на Блакітных азёрах ёсць драўляны Пярун.

— Цікава тое, што той Пярун зроблены з дуба з Астравеччыны, у які некалі трапіла маланка, — адзначае майстар.

На Блакітных азёрах ёсць і скульптура анёла. Згодна са старажытным паданнем, самы першы анёл прызямліўся тут, на Лысай гары. Убачыў слуп, абвязаны вышыванкай са старажытнымі дахрысціянскімі сімваламі, і прысеў. Скульптура называецца «Повязь часоў».

А яшчэ вакол драўляных твораў мядзельскага майстра ўзнікаюць новыя паданні. Каля аднаго з гатэляў стаіць скульптура «Дрэва жыцця» — жанчына з немаўлём на руках — сімвал працягу людскога роду. Тут жа — радкі Генадзя Бураўкіна і далонь з яблыкам.

**Турыстам, якія прыязджаюць на Мядзельшчыну, расказваюць: той, хто патрэ яблык, абавязкова знойдзе каханне.**

І яблык ужо вельмі добра адпаліраваны, адзначае спадар Юрась.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Юрасём КАМАНДЗІРЧЫКАМ.

Юрась Камандзірчык з Вялесам, які паехаў на Смаленшчыну.

# Дайджэст: Прэмію Сахарава прысудзілі апазіцыі, сталі вядомыя акалічнасці Усебеларускага сходу

## Што адбылося ў Беларусі за мінулы тыдзень

### Прыхільнікі Лукашэнкі збіраліся на мітынг, а яго скасавалі

25 кастрычніка ў Мінску анансавалі маштабны мітынг у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. У выніку яго скасавалі. Сам Лукашэнка пракаментаваў скасаванне так:

— Я сёння патэлефанаваў прэм'ер-міністру і кажу: збяры людзей, губернатараў і іншых, парайцеся. Нам не трэба ў Мінск збіраць людзей. Гэта будзе калапс. Мы паралізуем цалкам Мінск. Чалавек едзе Бацьку падтрымаць, але ён жа Бацьку хоча і ўбачыць. А як ён убачыць? Я думаў, выступлю на Кастрычніцкай плошчы. Ну 15 тысяч мяне ўбачаць.

Паводле Лукашэнкі, на мітынг збіралася каля 300 тысяч чалавек. Таксама ён падзяліўся, што сілавікі не змаглі б забяспечыць бяспеку мітынгоўцаў.

**Паводле tut.by.**

### Прэмію Сахарава прысудзілі дэмакратычнай апазіцыі Беларусі

Прэмія Сахарава за 2020 год у галіне правоў чалавека была прысуджаная беларускай апазіцыі. Лаўрэатаў назвалі на пленарным пасяджэнні Еўрапейскага парламента.

На абвяшчэнні лаўрэатаў спікер Еўрапейскага парламента **Давід Сасолі** назваў імёны дзесяці чалавек: **Святланы Ціханоўскай**, **Святланы Алексіевіч**, **Марыі Калеснікавай**, **Вольгі Кавалькавай**, **Веранікі Цапкалы**, **Сяргея Ціханоўскага**, кіраўніка пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алеся Бяляцкага**, кіраўніка страйкама МТЗ **Сяргея Дылеўскага**, заснавальніка папулярнага тэлеграм-канала **Сцяпана Пуціла**, палітыка **Мікалая Статкевіча**.

Узнагарода будзе ўручаная ў рэзідэнцыі Еўрапарламента ў Брусэлі 16 снежня.

**Паводле multimedia.europarl.europa.eu.**

### У Беларусі павялічваецца колькасць хворых на каронавірус

У Беларусі ўжо пачалася другая хваля каронавіруса. Выканальнік абавязкаў міністра аховы здароўя **Дзмітры Піневіч** заяўляў, што колькасць захвараўшых звязаная з нядзельнымі акцыямі пратэсту.

27 кастрычніка прэс-служба Міністэрства аховы здароўя паведамляла, што колькасць новых выпадкаў за дзень дасягнула 902 хворых. Такія ж лічбы былі ў першую хвалю каронавіруса гэтай вясной.

**Аддзел інфармацыі.**

### Стала вядома, калі адбудзецца Усебеларускі сход

Усебеларускі народны сход пройдзе ў студзенілютым наступнага года. Пра гэта ў эфіры «Беларусь 1» заявіў кіраўнік урада **Раман Галоўчанка**.

Паводле слоў прэм'ер-міністра, сход адбудзецца ў пачатку 2021, магчыма, у студзені ці ў лютым. З улікам эпідэміялагічнай абстаноўкі тэрміны і фармат сходу могуць быць адкарэктаваныя.

— Адрозненне народнага сходу ад папярэдніх заключаецца ў тым, што на яго будуць выносіцца не толькі пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, але і грамадска-палітычнага развіцця Беларусі, — заявіў Галоўчанка.

**Паводле Беларусь 1.**

# «Маладзечна» прайграе ў Петрыкаве, «Астравец» займае 10 месца

## Як гуляюць каманды рэгіёна ў футбольных чэмпіянатах

**Маладзечанскія футбалісты працягваюць барацьбу за выхад у першую лігу чэмпіянату Беларусі, а іншыя каманды рэгіёна змагаюцца за лепшыя месцы па выніках апошніх тураў у гэтым годзе. «РГ» расказвае, як складваецца лёс камандаў Павілля.**

### Як маладзечанцы змагаюцца за першую лігу

Летась маладзечанскія футбалісты забяспечылі сабе месца ў першай лізе. Аднак пасля кіраўніцтва Маладзечанскага раёна вырашыла, што каманду трэба амалоджваць і гуляць у другой лізе з-за фінансавання.

Футбалісты пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера **Сяргея Дараховіча** змаглі прайсці ў фінальны раўнд другой лігі. Ужо прайшлі два матчы, у якім маладзечанцы атрымалі перамогу. У апошнім туры зялёна-белыя прайгралі «Шахцёру» з Петрыкава з буйным лікам 0:4.

Цяпер маладзечанцы знаходзяцца на другім месцы ў турнірнай табліцы. Наперадзе – «Днепр-Магілёў», матч з якім пройдзе ўжо 31 кастрычніка.

### «Астравец» закончыў чэмпіянат

Сёлета прадстаўнікі астравецкага футбола дэбютавалі ў прафесійнай лізе. Паспяховыя гульні на пачатку сезона хутка завяршыліся, гаворкі аб працягу барацьбы за першую лігу не было.

У выніку «Астравец» гуляў з «Вікторыяй» (Мар'іна Горка) за 9-10 месцы. У першым матчы, 17 кастрычніка, астраўчане перамаглі 7:4. У другой гульні таксама пакінулі сапернікаў з буйным паражэннем – 4:0. Такім чынам, у сваім дэбютным сезоне астраўчане занялі дзявятае месца ў другой лізе.

### Баталіі ў першай лізе

У першай лізе гуляюць два прадстаўнікі нашага рэгіёна – «Смаргонь» і «Ашмяны-БДУФК». У першай лізе застаецца згуляць тры туры, сёлетні чэмпіянат набліжаецца да завяршэння.


«Смаргонь», «Ашмяны» і «Маладзечна» працягваюць чэмпіянат, а «Астравец» завяршыў сезон.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА

Смаргонцы згулялі 21 матч: 8 перамог, 6 нічыіх, 7 паражэнняў. Такі вынік забяспечвае смаргонскай камандзе шостае месца ў турнірнай табліцы. «Ашмяны» правялі 22 гульні: 6 перамог, 8 нічыіх, 8 паражэнняў. Ашмянцы – на дзявятым месцы.

Абедзве каманды пакуль знаходзяцца ў сярэдзіне турнірнай табліцы, таму не змогуць вылецець у другую лігу, але і не змогуць выйсці ў вышэйшую лігу. Трэба адзначыць, што такую задачу гэтыя каманды не ставілі на пачатку сезона.

**Настасся УТКІНА.**

# Чакае суда, трывожыцца за сітуацыю ў краіне. Што адбываецца з Аляксеем Кудзіным

**Беларускі баец ММА Аляксей Кудзін быў арыштаваны ў гэтым жніўні, цяпер праходзіць па крымінальнай справе па гвалце над супрацоўнікамі органаў унутраных спраў. «Матч ТВ» узяло інтэрв'ю ў Кудзіна, у якім адзінаборца расказаў пра сваё затрыманне і СІЗА ў Жодзіне.**

Аляксей Кудзін расказаў, што з ім цяпер усё ў парадку, аднак яго здзівілі гісторыі затрымання ў Маладзечне.

– Наслухаўся, калі сам прыехаў дадому, дастаткова. Што ў мяне стралялі баявымі, што мне стралялі ў галаву ва ўпор... Нічога такога не было. У мяне цяпер дамашні арышт і падпіска аб неразгалошванні, так што я не магу пра падрабязнасці сваёй справы вам расказаць, але са мной усё ў парадку.

Па словах Кудзіна, 11 жніўня ён апынуўся не ў той час і не ў тым месцы. У зняволенні маладзечанскі адзінаборца правёў два тыдні. Спачатку быў у Маладзечанскім РАУС, а потым у жодзінскім ізалятары.

– Карміць – кармілі, туалет і спальнае месца былі. Магу сказаць, што з моманту затрымання і да моманту вызвалення на мяне ні адзін супрацоўнік не падняў руку і дубінкай не закрануў.

Пасля затрымання ў Маладзечне Кудзіну далі магчымасць патэлефанаваць жонцы, якая пад'ехала да аддзялення міліцыі. У той момант Аляксея вазілі ў бальніцу, у яго была невялікая траўма.

У ізалятары Кудзін змог кожны дзень трэніравацца.

– Адцісканні паміж нарамі, прысяданні са сваёй вагой і падцягванні на вентыляцыйнай рашотцы. Рабіў усяго па сто: адцісканні, прысяданні, прэс, падцягванні і спіна. Было нават такое, што хлопцы, якія са мной сядзелі, дапамагалі мне.

**– Ці не баяліся, што людзі з другога боку кратаў задаволяць спарынг?**

– Былі думкі, што могуць, як у гэтых гісторыях, уварвацца ў камеру і зладзіць зачыстку. Але ёсць такі момант у псіхалогіі – быў да гэтага гатовы, альбо пан, альбо прапаў. І настолькі быў спакойны, што нават растлумачыць не магу. Можа, столькі баёў было, што ўжо перастаеш баяцца і дубінкі, і гумовых куляў.

> **Мне здаецца, калі ёсць стрыжань і ты гатовы ісці да канца, то не кожны зможа на цябе нават замахнуцца.**



Кудзіна затрымалі ў Маладзечне 11 жніўня, а цяпер ён пад дамашнім арыштам.

Фота twitter.com/kudin_alexey

Цяпер Аляксей Кудзін знаходзіцца пад дамашнім арыштам у Маладзечне. Кожны вечар ён тэлефануе супрацоўнікам міліцыі, каб паведаміць, што ён дома. Пасля прыязджаюць міліцыянеры для праверкі. Па словах Кудзіна, ён сямейны чалавек, таму яму падабаецца знаходзіцца дома, у яго няма ад гэта дыскамфорту.

**– Ці можа ваш разбор скончыцца чымсьці дрэнным для вас?**

– Псіхалагічна, вядома, ёсць нейкі трэмар, але разлічваю, што ўсё будзе добра.

**– Як вы ў цэлым ацэньваеце сітуацыю, якая адбываецца ў нас у краіне?**

– Як трывожную. Хочацца, каб усё гэта хутчэй скончылася і каб як мага менш людзей пры гэтым траўмавалі.

**Паводле «МАТЧ ТВ».**

